*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***




# НАША СЛОВА.pdf

Другі год выдання | № 36 (88) 6 верасня 2023 г.

# XXX Дзень беларускага пісьменства




Урачыстая цырымонія адкрыцця XXX Дня беларускага пісьменства ў Гарадку Віцебскай вобласці пачалася з ускладання вянкоў да Мемарыяльнага комплексу "Неўміручасць" і хвіліны маўчання ў памяць пра абаронцаў беларускай зямлі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і вызваліцеляў Гарадка.



Сімвалічна, што канцэртную праграму адкрыла песня на словы выхадца з Гарадка Уладзіміра Скарынкіна "Белая Русь ты траўня, Белая Русь ты мая!".

*(Працяг на ст. 2-3.)*

# ЛІДЗЕ - 700




З 1 па 8 верасня слаўны горад Ліда адзначае 700-годдзе. Можна гаварыць, што паселішча тут існавала з 11-га стагоддзя, што пацверджана археалагічнымі раскопкамі, але калі мы гаворым менавіта пра **горад Ліда**, то адлік ад 1323 года, калі Вялікі князь Гедымін загадаў будаваць Лідскі замак, з'яўляецца правамерным. Менавіта ад гэтага года Ліда пайшла цвёрдым поступам па дарогах гісторыі.




1 верасня распачаў святкаванне 700-годдзя Ліды Харчфэст. Па задумцы тут мусіла адбывацца масавая дэгустацыя лідскай прадукцыі і прадстаўленне прамысловасці горада. Па ўсім абшары каля Палаца культуры былі размешчаны павільёны лідскіх прадпрыемстваў, а на галоўнай сцэне выступленні артыстаў чаргаваліся з рэкламнымі ролікамі.

*(Працяг на ст. 4-8.)*



# XXX Дзень беларускага пісьменства






**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў і гасцей з Днём беларускага пісьменства. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе беларускага лідара. Кіраўнік дзяржавы пажадаў усім удзельнікам і гасцям свята здароўя, шчасця, жыццёвай мудрасці і творчага плёну на карысць Радзімы.**

## *Віншаванне Прэзідэнта Беларусі з Днём беларускага пісьменства*

***Удзельнікам і гасцям Дня беларускага пісьменства***

*Шаноўныя сябры!*

*Сардэчна віншую вас з Днём беларускага пісьменства - святам нацыянальнай культуры, друкаванага слова і беларускай духоўнасці, якое сёлета адзначае 30-годдзе.*

*За гэты час яго сталіцамі былі многія славутыя культурныя і асветныя цэнтры Беларусі, сярод якіх Полацк, Тураў, Навагрудак, Нясвіж, Пінск, Заслаўе, Шклоў. З імі звязаны імёны лепшых айчынных творцаў сусветнага маштабу - Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, Пятра Мсціслаўца, Спірыдона Собаля, Сімяона Полацкага.*

*Сімвалічна, што юбілей прыйшоўся на Год міру і стваральнай працы і святкуецца на гасціннай Віцебшчыне, дзе нараджалася беларуская дзяржаўнасць і знаходзіцца старажытнейшы цэнтр кнігадрукавання.*

***Родная мова, веды і традыцыі продкаў заўсёды яднаюць людзей, натхняюць іх на плённую працу, дазваляюць пераадольваць цяжкасці і перашкоды, з'яўляюцца невычэрпнай крыніцай сілы і мудрасці народа, апорай у выхаванні патрыятызму і любві да Бацькаўшчыны.***

*Шчыра жадаю ўсім удзельнікам і гасцям свята здароўя, шчасця, жыццёвай мудрасці і творчага плёну на карысць Радзімы.*

*Аляксандр Лукашэнка.*

Намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Ігар Петрышэнка зачытаў прывітанне кіраўніка дзяржавы.

- Віцебская вобласць ганарыцца сваёй гісторыяй, культурай, багатай духоўнай спадчынай. Старажытны Полацак - калыска беларускай дзяржаўнасці, малая радзіма першага ўсходнеславянскага і беларускага друкара, філосафа і гуманіста Францішка Скарыны. У 1994 годзе ў Полацку ўрачыста прайшоў першы Дзень беларускага пісьменства. І сёння ў сёмы раз рэгіён стаў цэнтрам прыцягнення ўсіх, хто любіць родную мову, падтрымлівае і развівае нашу нацыянальную культуру. Вялікія асветнікі Прыдзвіння Еўфрасіння Полацкая, Сімяён Полацкі, Язэп Драздовіч, Уладзімір Караткевіч, іншыя літаратурныя і грамадскія дзеячы, навукоўцы сваёй плённай працай і талентам узбагацілі скарбніцу сусветнай цывілізацыі. Сталіцай Дня беларускага пісьменства ў 2023 годзе па праве стаў Гарадок, невялікі родны горад аўтара самай вядомай нацыянальнай паэмы XIX стагоддзя "Тарас на Парнасе" Кастуся Вераніцына. Гэты твор завуць пярлінай беларускай паэзіі, а паэтычныя радкі перараслі ў цытаты і сталі народнымі прымаўкамі. З Гарадком звязана жыццё вядомага беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзіміра Скарынкіна.

- Традыцыйна напачатку чэрвеня ў Гарадку праходзіць фэст народнай творчасці "Гарадоксі Парнас". Ён збірае мноства самабытных майстроў, а Гарадоксі Дом рамёстваў і фальклору з'яўляецца ўзорнай установай Беларусі па захаванні і развіцці нацыянальнай спадчыны. Бягучыя і мінулыя дасягненні - гэта кодэкс нацыі, стымул для новых здзяйсненняў, - адзначыў старшыня аблвыканкама Аляксандр Субоцін.

У адкрыцці свята прыняў удзел мітрапаліт Менскі і Заслаўскі, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі Веніямін.

- Гэта свята мае глыбокі сакральны сэнс, прамое адносенне да імя Бога, якое гучыць як *слова* ці па-грэцку - *логас*. Гэта светапоглядная першааснова. Слова, мова ад самага пачатку з'яўляюцца выключным дарма Божым чалавеку, - падкрэсліў Патрыяршы Экзарх.

Пасля ўрачыстых слоў на сцэну выйшлі артысты. У канцэртнай праграме прынялі ўдзел лепшыя выканаўцы Беларусі: арт-група "Беларусы", група "Аўра", пераможцы нацыянальнай прэміі "Жывая класіка" і іншыя.

***Фота Зміцера Осіпава і Мініформа Беларусі.***





. Да Дня беларускага пісьменства ў Гарадку адбылося спецыяльнае гашэнне канверта з арыгінальнай маркай.







**У наступным годзе Дзень беларускага пісьменства пройдзе ў Івацэвічах. На сцэне ў Гарадку, дзе сёлета праходзіла свята, адбылася ўрачыстая перадача Дня пісьменства**

Традыцыйна Дзень беларускага пісьменства праходзіць у гарадах, якія з'яўляюцца гістарычнымі цэнтрамі культуры, навукі, літаратуры і кнігадрукавання.

Упершыню, у 1994 годзе, святочныя мерапрыемствы адбыліся ў старажытным горадзе Полацку. Затым сталіцамі свята сталі такія гістарычна значныя культурныя цэнтры краіны, як Тураў, Навагрудак, Нясвіж, Орша, Пінск, Заслаўе, Мсціслаў, Мір, Камянец, Паставы, Шклоў, Барысаў, Смаргонь, Хойнікі, Ганцавічы, Глыбокае, Быхаў, Заслаўе, Шчучын, Рагачоў, Бялынічы, Капыль, Добруш.

Сёлета Дзень беларускага пісьменства праходзіў у Гарадку Віцебскай вобласці, дзе адзначыўся помнікам "Букварю", афармленым цалкам па-руску ды яшчэ з арфаграфічнымі памылкамі.



Наступны горадам, які прыме свята, будуць Івацэвічы. Пра гэта паведамляе афіцыйны тэлеграм-канал Міністэрства культуры Беларусі.

***Фота: тэлеграм-канал Міністэрства культуры.***

# У Гарадку прайшла цырымонія ўручэння Нацыянальнай літаратурнай прэміі



*Лаўрэатам Нацыянальнай літаратурнай прэміі ўручылі заслужаныя ўзнагароды на адкрыцці XXX Дня пісьменства ў Гарадку, перадае карэспандэнт БЕЛТА.*

У ліку ўладальнікаў высокай узнагароды былі як вопытныя пісьменнікі і паэты, так і тыя, хто робіць першыя крокі ў літаратурнай творчасці.

Лепшым творам у прозе прызнана кніга **Уладзіміра Гаўрыловіча** "Па веры вашай...".

У публіцыстыцы лаўрэатам прэміі стаў **Уладзімір Макараў** за кнігу "Во имя будущего страны. О приоритетах национальной безопасности в новом веке".

Лепшы твор для дзяцей і юнацтва "Пашка і сонечны праменьчык" стварыла **Алена Стэльмах**.

Лепшы твор (зборнік твораў) паэзіі "Дыядэмная споведзь" напісала **Соф'я Шах**.

Лепшы твор літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства належыць пяру **Аліны Сабуць**. Яе "Літаратурныя дыялогі: мастацкія пошукі беларускай літаратуры ХХ-ХХІ стагоддзяў" прынеслі аўтару заслужаную ўзнагароду.

Лепшым дэбютам года была прызнана **Алеся Прыходзька** з кнігай "Хлюпик и друг его Нюня".




*Алеся Пушнякова, БЕЛТА.*





# Ліда адзначыла - 700-годдзе

**1 верасня Ліда вітала гасцей прыгожа і далікатна.**








Самыя розныя інсталяцыі, мелодыі, забавы, дэгустацыі па ўсім абшары.

Вельмі папулярнай была пляцоўка Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы. Сфатаграфавацца з Гедымінам жадалі вельмі многія. Выяву Гедыміна мастак стварыў непасрэдна да свята.

Была чарга і каля павільёна прадпрыемства "Конус", дзе кожны мог адбіць сабепамятны медаль.



**Ёсць "Лідскі хлеб", ёсць "Лідская мука".**



Канцэртную праграму на галоўнай сцэне распачалі Вячаслаў Статкевіч (кіраўнік ансамбля "Свята", сам родам з Лідчыны) і Дар'я Жук (Палац культуры Ліды). Менавіта ў выкананні Вячаслава Статкевіча прагучала песня, дзе рэфрэнам ішоў радок: *"Ёсць "Лідскі хлеб", ёсць "Лідская мука"*.

Вялі праграму Вольга Рыжыкава і Тео.

Сваё майстэрства і мастацтва да 700-годдзя горада дэманстравалі: Гражына Кучынская, Яна Гурская, Тарэза Міндзюліс, Вераніка Мікаловіч, гурты "Талісман", "Акцэнт", ансамбль "Лідчанка" і так да самай дыскатэкі і да позняга вечара.










# Ліда адзначыла - 700-годдзе

**Афіцыйнае адкрыццё святкавання 700-годдзя Ліды адбылося 2 верасня**

Лідскі раён - прыклад развіцця раёнаў з насельніцтвам большым за 80 тыс. чалавек. Аб гэтым сказаў журналістам першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Максім Рыжанкоў у час святкавання юбілею горада, перадае карэспандэнт БЕЛТА.



*"Тое, як сёння развіваецца Лідскі раён і Ліда, - гэта прыклад паспяховасці таго праекта, пра які гаворыць Прэзідэнт, калі мае на ўвазе развіццё раёнаў "80 плюс". Трэба сказаць, што тут развіваецца прамысловасць добрымі тэмпамі, сельская гаспадарка на вельмі высокім узроўні. Наогул Ліда вельмі прыкметна не толькі ў Гродзенскім рэгіёне, але і на тэрыторыі ўсёй нашай рэспубліцы"*, - сказаў Максім Рыжанкоў.

Ён дадаў: *"Сваімі поспехамі вядомыя мясцовыя прамысловыя брэнды праслаўляюць Ліду па ўсім свеце, і яны даюць не толькі добры экспартны патэнцыял для нашай дзяржавы, але і ствараюць яе імідж. Акрамя таго, сацыяльная інфраструктура горада таксама можа быць прыкладам любому раённаму цэнтру".*

*"І фестываль, які гэтымі днямі прымае Ліда - гэта проста фантастыка. Дзясяткі тысяч людзей сабраліся ў такім добраўпарадкаваным кутку, які можа змясціць усіх жадаючых і даставіць задавальненне не толькі жыхарам горада, але і шматлікім гасцям. Гэта ўсё сведчыць пра клопат улад горада аб насельніцтве. Важна стварыць камфортныя ўмовы, працоўныя месцы для жыхароў, а яшчэ і адпачынак, каб сем'і маглі адпачыць і прыемна правесці час"*, - рэзюмаваў Максім Рыжанкоў.




**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў жыхароў Ліды і Лідскага раёна з 700-гадовым юбілеем горада, паведамляе БелТА са спасылкай на прэс-службу беларускага лідара**




*"Гісторыя горада сваімі каранямі сыходзіць у глыб стагоддзяў. Вы атрымалі ў спадчыну багатыя традыцыі, духоўныя і матэрыяльныя каштоўнасці, сярод якіх знакаміты Лідскі замак, які даўно стаў візітнай карткай рэгіёна і штогод прываблівае тысячы турыстаў"*, - гаворыцца ў віншаванні.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што сёння Ліда - гэта скіраваны ў будучыню горад. *"Будуецца жыллё, развіваецца сацыяльная сфера, абнаўляецца інфраструктура. Дзякуючы ўпартай стваральнай працы жыхароў раён знаходзіцца сярод лідараў у вобласці і рэспубліцы па многіх эканамічных паказчыках як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы. Лідскія прадукты добра вядомыя не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Самых добрых слоў заслугоўваюць вашы любоў да сваёй малой радзімы, павага да памяці продкаў, клопат аб захаванні непарыўнай сувязі часоў і пакаленняў. Перакананы, так будзе і надалей"*, - падкрэсліў Прэзідэнт.

Аляксандр Лукашэнка пажадаў жыхарам Ліды і Лідскага раёна моцнага здароўя, мірнага неба, шчасця, новых дасягненняў і поспехаў на карысць Лідскага краю і любімай Беларусі.







# Ліда адзначыла - 700-годдзе

### Сяргей Ложачнік уручыў кіраўнікам прадпрыемстваў Ганаровыя граматы Лідскага райвыканкама

Галоўнае багацце нашага рэгіёна - гэта яго людзі: добрыя, адкрытыя, таленавітыя і працавітыя. Дзякуючы іх нястомнай працы Лідчына расце і прыгажэе, упэўненай хадой крочыць у будучыню. Поспехі і дасягненні жыхароў раёна ўслаўляюць сваю малую радзіму далёка за яе межамі.

Падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця святочных мерапрыемстваў, прымеркаваных да 700-гадовага юбілею Ліды "Захоўваючы мінулае, ствараем будучыню!", старшыня раённага выканаўчага камітэта выказаў словы падзякі тым, хто сваёй працай робіць родны горад лепшым і прыгажэйшым.






А дырэктары лепшых прамысловых прадпрыемстваў Лідчыны былі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі раённага выканаўчага камітэта.




### Віншаванне Сяргея Ложачніка і Інэсы Белуш з 700-гадовым юбілеем горада

**Дарагія лідзяне!**

Прыміце самыя шчырыя віншаванні з 700-гадовым юбілеем горада!

Ліда - адзін са старажытных гарадоў Беларусі і найпрыгажэйшы сучасны раённы цэнтр. Гэта горад з багатай гісторыяй і культурнай спадчынай, дзе працуюць дзясяткі прадпрыемстваў і пражывае больш за 103 тысячы чалавек.

Ва ўсе часы скарбам нашай зямлі былі людзі - выдатныя, працавітыя, творчыя, якія любяць свой край. Для лідзян важна, ствараючы будучыню, захоўваць мінулае. У нас з вамі ёсць усё, каб і далей развіваць свой горад, яго эканоміку і сацыяльную сферу.

Ад усяго сэрца жадаем усім дабрабыту, поспехаў і здароўя. Новых пачынанняў і дасягненняў на карысць Лідскага краю і нашай краіны!

З юбілеем, дарагія лідзяне!

Сяргей ЛОЖАЧНІК,
старшыня раённага выканаўчага камітэта,
Інэса БЕЛУШ,
старшыня раённага Савета дэпутатаў.

### У Лідзе адкрылі Дошку пашаны






2 верасня каля Лідскага райвыканкама адкрыта новая Дошка пашаны.




# Ліда адзначыла - 700-годдзе

### А з паўдня 2 верасня завіраваў сам фестываль LidBeer

На фестываль з усёй Беларусі сабралася 102 тысячы аматараў перш за ўсё музыкі, ну і, вядома, лідскага піва. Людзі ішлі і ехалі суцэльнай плынню, хаця ў мінулыя гады мксімум наведвальнікаў сягаў 150 тысяч, але пасля доўгага перапынку сабралася дастаткова, каб ізноў зашумела ўся Ліда на ўсю Белаврусь.

У пятніцу на свяце былі ў асноўным лідзяне (тысяч 10-15), а ў суботу рэй вялі госці.






















# Ліда адзначыла - 700-годдзе

**Княскае паляванне і сярэднявечны рыцарскі стан захаплялі цікаўных у Лідскім замку.**









**3 верасня ў Лідзе праходзілі спартова-масавыя мерапрыемствы, прысвечаныя 700-годдзю горада.**



Адкрыты раённы турнір па міні-футболу.



Лёгкаатлетычны забег "Здароўе" па вуліцы Мітрапаліта Філарэт.а.



Адкрыты раённы турнір па хакею з шайбай сярод хлопцаў 2014 г.н. На лядовую арэну выйшлі каманды “Ліда 2014-1”, “Ліда 2014-2”, а таксама “Дынама-Маладзечна-2014” і “Авіятар-2014” з г. Баранавічы.

***Паводле СМІ.***





## У Германіі вырашылі правесці эксперымент з чатырохдзённым працоўным тыднем



1 верасня ў Германіі пачынаецца прыём заявак ад прадпрыемстваў, ахвотнікаў прыняць удзел у некалькі незвычайным эксперыменце. Гаворка, піша нямецкі штотыднёвік Spiegel, пра пілотны праект, задуманы дзеля таго, каб вызначыць, ці прыжывецца ў краіне чатырохдзённы працоўны тыдзень.

Дэбаты пра ўвядзенне такога вытворчага рэжыму вядуцца ў Германіі ўжо даволі працяглы час. Аднак ні да якога кампраміснага рашэння прыхільнікі і супернікі новаўвядзення дагэтуль так і не прыйшлі. Менавіта таму і тыя, і іншыя рызыкнулі ад тэарэтычных спрэчак пра магчымасць і мэтазгоднасць пераходу на скарочаны тыдзень перайсці да практычнай праверкі ініцыятывы.

Эксперымент мяркуецца правесці на 50 прадпрыемствах самых розных галін эканомікі. Па ўмовах тэста, гэтыя прадпрыемствы павінны пачынальна з 1 лютага наступнага года на працягу шасці месяцаў перавесці вытворчасць з пяцідзённага працоўнага тыдня на чатырохдзённы. Пры захаванні зарплаты супрацоўнікам, зразумела. Каардынаваць праект будзе кансультатыўнае агенцтва Intraprenar. У яго кіраўнічую раду ўваходзяць прадстаўнікі прафзвязаў, працадаўцаў, звяза рамеснікаў. Навуковы аналіз вынікаў эксперыменту ажыццявяць эксперты Мюнстэрскага ўніверсітэта.

Да канца праекта яшчэ далёка. Аднак чальцы рады Intraprenar ужо выказалі сваё стаўленне. Не да пілотнага праекта, а да самой ідэі пераходу на четырохднёвік. Так, прадстаўнік працадаўцаў Крысціян Шальтар мяркуе, што ўвядзенне гнуткага графіка працы, у тым ліку і чатырохдзённага тыдня, можа, несумнеўна, стаць стымулам для прыцягнення кваліфікаваных кадраў. Аднак, адзначыў Шальтар, узнікаюць вялікія сумневы, што пры чатырохдзённым рэжыме павялічыцца прадукцыйнасць працы. А без гэтага ніякае прадпрыемства не пойдзе на скарачэнне працоўнага тыдня.

Іншага меркавання прытрымліваецца чалец кіравання прафзвязу металістаў Сафі Еніке. Увядзенне чатырохднёвіка на многіх прадпрыемствах, заявіла яна, апраўдалася як мера па захаванні працоўных месцаў. І акрамя таго, гэта палепшыла баланс паміж прафесійным і асабістым жыццём працаўнікоў.

А прэс-сакратар Цэнтральнага звяза рамеснікаў выказалася больш стрымана. Пры іх бедным штатным раскладзе невялікія прадпрыемствы наўрад ці адважацца на ўвядзенне чатырохднёвіка, сказала яна.

*Юры Яршоў.*

***Навіны Германіі***

## СМІ звязалі рэцэсію нямецкай эканомікі з залежнасцю ад кітайскага рынку




Нямецкая эканоміка апынулася ў рэцэсіі, эксперты звязваюць гэта з залежнасцю ад кітайскага рынку, паведаміў амерыканскі тэлеканал CNBC.

Эканоміка ФРГ ператвараецца з лакаматыва Еўропы ў "хворага чалавека", адзначаецца ў матэрыяле. Міжнародны валютны фонд прагназуе, што ВУП Германіі скароціцца, і гэта будзе адзіная краіна ў "вялікай сямёрцы" (G7), якую чакае аслабленне ў 2023 годзе.

Як адзначыў дырэктар па даследаваннях бізнэс-цыклаў і ростаў Кільского інстытута сусветнай эканомікі Стэфан Кутс, на эканоміку Германіі ціснуць два віды праблем: кароткатэрміновыя і доўгатэрміновыя. У іх ліку старэнне насельніцтва, бюракратыя і залежнасць ад кітайскага рынку. Дадатковыя цяжкасці ствараюць гандлёвыя абмежаванні з боку ЗША.

Улады ФРГ не прапануюць эфектыўных рэформаў для рашэння праблем. У міністэрстве эканомікі краіны не вераць у паляпшэнне сітуацыі нават у сярэднетэрміновай перспектыве, сказана ў публікацыі.

Мяркуецца, што ў 2024 годзе эканоміка Германіі будзе расці павольней, чым у Францыі, Іспаніі і Вялікабрытаніі.

Газета Die Welt 1 верасня са спасылкай на даследаванне паведаміла, што каля паловы насельніцтва Германіі заявіла пра боязь краху эканомікі. Так, 50% немцаў лічаць, што праз 10-15 гадоў ФРГ перастане быць адной з вядучых эканомік свету, у той час як у 2022 годзе гэта былі ўсяго 30%.

Да гэтага, 17 жніўня, часопіс The Economist адзначаў, што эканоміка Германіі знаходзіцца ў рэцэсіі. У III квартале ў краіне прагназавалі спад ці стагнацыю. Адзначалася, што ФРГ можа аказацца адзінай буйнай эканомікай, якая скароціцца ў 2023 годзе.

Дадзеную публікацыю пракаментаваў эксперт Георгій Свірын, назваўшы сярод праблем нямецкай эканомікі незадаволенасць жыхароў, высокую інфляцыю, а таксама скарачэнне прытоку інвестыцый.

***Фота: REUTERS/Phil Noble.***



№ 36 (88) 6 ВЕРАСНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

# Літаратуразнаўцу Уладзіміру Казберуку - 100 гадоў



29 жніўня спаўнілася 100 гадоў з дня нараджэння беларускага крытыка, даследчыка роднай літаратуры і перакладчыка Уладзіміра Казберука (1923-2016), які быў родам з вёскі Бандары што на Беласточчыне.

У беларускай літаратуры Уладзімір Казбярук з'яўляўся адным з грунтоўных даследчыкаў праблем беларускага рамантызму. Варта толькі прыгадаць па гэтай тэме кнігі аўтара: "Традыцыі польскага рамантызму ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя" (Мінск, 1972), "Рамантычны пошук: назіранні над беларускім рамантызмам пачатку XX стагоддзя" (Мінск, 1983). Па кнігах Уладзіміра Казберука да сённяшніх дзён настаўнікі-філолагі ў Беларусі вывучаюць творчасць Якуба Коласа. Гэта кнігі "Якуб Колас у школе" (Мінск, 1967, 1975), "Паэма Якуба Коласа "Новая зямля" (Мінск, 1979), "Якуб Колас (жыццё і творчасць)" (Мінск, 1962) і іншыя. Па творчасці Якуба Коласа дакастрычніцкага перыяду Уладзімір Казбярук абараніў кандыдацкую дысертацыю. Даследчык шмат пісаў пра польска-беларускія ўзаемаадносіны. Вынікам гэтага сталі яго працы "Традыцыі польскага рамантызму ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя" (Мінск, 1972), "Славянскія літаратуры і праблемы беларускага параўнальнага літаратуразнаўства" (Мінск, 1982). Вельмі цікавыя і да сённяшніх дзён не згубілі сваёй актуальнасці яго даследчыя артыкулы пра Янку Купалу, Алеся Гаруна, Францішка Багушэвіча, пра Янку Купалу і Марыю Канапніцкую, пра беларускія вершы Адама Міцкевіча, пра невядомыя вершы Зофіі Тшашчкоўскай і г.д. Ніколі не абмінаў Уладзімір Казбярук творчасць беластоцкіх літаратараў, шмат напісана ім было пра Алеся Барскага, Віктара Шведа і, наогул, пра беларускую літаратурную Беласточчыну. У 2003 годзе выйшла з друку кніга Уладзіміра Казберука "Францішак Скарына". Кнігу склаў навукова-папулярны нарыс пра асобу Францішака Скарыны ў культурна-гістарычным кантэксце. Аўтар цікава распавёў пра найбольш важныя і загадкавыя факты з жыцця першадрукара, асвяціў некаторыя спрэчныя пытанні, якія да сённяшніх дзён хвалююць даследчыкаў. Займаючыся літаратуразнаўствам, Уладзімір Казбярук знаходзіў час і для ўкладання кніг літаратурных твораў. Дзякуючы яму, дзе ён быў укладальнікам, свет пабачылі кнігі Якуба Коласа "На прасторах жыцця" (1986), "Голас зямлі" (1988), Янкі Купалы "Спадчына" (1988), Алеся Гаруна "Сэрцам зачуты звон" (1991), кнігу твораў беларускіх пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя "На ўсходзе сонца" (1989), кнігу твораў беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя "Вытокі" і іншых.







***Паводле СМІ.***

## Нагода

# Збіральнік беларускіх перлаў

Беларускаму і польскаму фалькларысту, этнографу, археолагу, краязнаўцу і калекцыянеру Міхалу Федароўскаму (1853-1923) належыць адно з самых пачэсных месц сярод працаўнікоў на ніве беларускай этнаграфіі і фальклрыстыкі, сярод даследчыкаў, якія паклалі тытанічную працу на выяўленне мастацкіх здабыткаў беларускага народа і тым самым прычыніліся да паўнейшага раскрыцця духоўнага вобліку беларускага этнасу перад усім светам. Так пра Міхала Федароўскага сказаў даследчык яго творчасці, кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч (1938-2012). Янка Саламевіч па творчасці Міхала Федароўскага абараніў кандыдацкую дысертацыю ў 1971 годзе. Яна называлася "Міхал Федароўскі - фальклярыст". А ў 1972 годзе даследчык выдаў кнігу "Міхал Федароўскі". Пра гэтую кнігу надрукавалі каля дзесяці станоўчых рэцэнзій у Беларусі і ў Польшчы. Пра яе пісалі Генадзь Каханоўскі, Мікола Гайдук, Уладзімір Казбярук, Анатоль Фядосік і іншыя вядомыя даследчыкі.

*1 верасня Міхалу Федароўскаму споўнілася170 гадоў з дня нараджэння. У Лідскім гістарычна-мастацкім музеі 6 верасня сплянаваны навукова-практычны семінар, прысвечаны юбілею Міхала Федароўскага. Семінар праводзіцца сумесна з Нацыянальнай Акадэміяй Навук Беларусі.*

Найвялікшай заслугай Міхала Федароўскага з'яўляецца шматтомная праца "Люд беларускі" ў 8 тамах. Гэта сапраўдная скарбніца духоўнай творчасці беларускага народа, у якой сабраны і апублікаваны тысячы песень і казак, вераванняў і забабонаў, прыказак і загадак, паданняў, легенд, анекдотаў, прыпевак, што стварала творчая фантазія нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Таму нездарма вялікі беларускі паэт Уладзімір Дубоўка назваў Федароўскага збіральнікам жэмчугу.


PRACE ETNOLOGICZNE
INSTYTUTU NAUK ANTROPOLOGICZNYCH I ETNOLOGICZNYCH
TOWARZYSTWA NAUKOWEGO WARSZAWSKIEGO

1.

MICHAŁ FEDEROWSKI

LUD BIAŁORUSKI

NA RUSI LITEWSKIEJ

MATERJAŁY DO ETNOGRAFJI SŁOWIAŃSKIEJ
ZGROMADZONE W LATACH 1877—1905

TOM IV

Przysłowia, zarciki, wyrażenia stałe oraz zagadki ludu, mieszczan i zagrodowców z okolic Grodna, Sokółki, Białegostoku, Bielska, Wołkowyska, Słonima, Nowogródka, Słucka, Lidy, Wilejki, Święcian i Oszmiany.

WYDANO Z ZASIŁKU FUNDUSZU KULTURY NARODOWEJ
WARSZAWA
TOWARZYSTWO NAUKOWE WARSZAWSKIE
1935



Жыццё і дзейнасць збіральніка жэмчугу непарыўна былі звязаны з Варшавай і з беларусамі, якія там жылі напачатку XX стагоддзя. Варшава з'яўляецца радзімай Міхала Федароўскага, дзе ён нарадзіўся 1 верасня 1853 года. Бацька яго Адольф па нацыянальнасці быў кашубам, прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863-1864 гадоў, пасля якога эмігрыраваў у Францыю і хутка пакінуў сям'ю. А ў 1870 годзе падчас франка-прускай вайны загінуў у бітве пад Арлеанам. Маці Элеанора сына выхоўвала адна, праўда, дапамагалі і яе бацькі. Калі Міхал падрос, скончыў чацвёрты клас мужчынскай прагімназіі з рускай мовай навучання ў Варшаве. Тады і зацікавіўся юнак фальклорам, у прыватнасці прыказкамі і фразеалагізмамі, запісваў іх ад варшавян. У 1873-1874 гадах быў вольным слухачом Пятроўска-Разумоўскай акадэміі пад Масквой.

У 1877 годзе Міхал Федароўскі выехаў у Заходнюю Беларусь. На працягу 17 гадоў ад Беласточчыны да Случчыны ён паглыблена даследаваў духоўную і матэрыяльную культуру беларускага народа, збіраў этнаграфічныя матэрыялы, экспанаты, кнігі, гістарычныя дакументы, творы жывапісу і графікі, раскопваў курганы, старажытныя паселішчы, могільнікі, назапашваў матэрыял да археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі і г.д. Сабраў больш за 5000 беларускіх песень



№ 36 (88) 6 ВЕРАСНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

каляндарнага і сямейна-абрадавага цыклаў, запісаў больш за 10 тысяч прыказак, больш за 500 загадак, сотні чарадзейных, сацыянальна-бытавых, сатырычных і іншых казак, легенд, паданняў, анекдотаў, жартаў, гумарэсак, народных павер'яў, забабонаў, прымхаў, парад па народнай медыцыне і г.д. Шмат этнаграфічных запісаў, археалагічных экспанатаў дасылаў Зыгмунту Глогеру ў яго маёнтак Яжэва на Беласточчыне, дарыў навуковым установам.

У 1904 годзе Міхал Федароўскі назаўсёды вяртаецца ў Варшаву. 10 траўня 1904 года "Gazeta Polska" (№ 129) паведамляла, што ў Варшаву пераехаў вядомы этнограф і археолаг, аўтар вялікай працы пад назвай "Люд беларускі" Міхал Федароўскі. Збіральнік прывёз з сабой багатыя калекцыі археалагічных экспанатаў, сабраных на Беларусі, некалькі тысяч навуковых кніг пераважна з XVIII-XIX стагоддзяў, больш за 5000 гравюр, велізарнейшую колькасць гістарычных дакументаў і прыватных лістоў XVII і XVIII стагоддзяў з архіваў Пацаў, Пацеяў, Храптовічаў, Сапегаў, сабраных ім на застрэшшах і ў куфрах шляхецкіх двароў, фальваркаў і засценкаў.

Пераехаўшы ў Варшаву, Міхал Федароўскі пачаў апрацоўваць сабраныя на Беларусі прыказкі. Потым заняўся класіфікацыяй, апрацоўкай і падрыхтоўкай да друку вялікага збору беларускіх народных песень. Але ўсё гэта яму зрабіць было няпроста, таму ў Варшаве ён шукаў памочнікаў.

Першай памочніцай Міхала Федароўскага ў апрацоўцы беларускага фальклору ў Варшаве была Лідзія Падул. Дзяўчына з Лідскага павета вучылася ў Варшаўскай кансерваторыі. Па словах Янкі Саламевіча, даследчыка творчасці Федароўскага, Лідзія Падул нават запісала 7 песень для Федароўскага ў Лідскім павеце. Дзяўчына шмат дапамагала фалькларысту, нават пэўны час жыла ў яго на кватэры. Але больш звестак пра Лідзію Падул адшукаць не ўдалося. Магчыма, пасля заканчэння кансерваторыі, яна пакінула Варшаву.

Вельмі часта ў Міхала Федароўскага бываў Рамуальд Зямкевіч (1881-1944) - беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст, гісторык і калекцыянер, які жыў у Варшаве. Ён пазнаёміўся з Федароўскім у 1905 годзе. Рамуальда Зямкевіча найперш цікавілі антыкварныя калекцыі Федароўскага. Вядома, ён шмат дапамагаў у апісанні і класіфікацыі сабранага ім матэрыялу, нешта купляў у Федароўскага, нешта абменьваў і нават мог украсці. Гэта была яго хвароба, як згадваў пісьменнік Сяргей Хмара (Слонімскі край, 2000, № 1. С. 39). У 1931-1935 гадах Рамуальд Зямкевіч вёў карэктуру чацвёртага тома працы "Люд беларускі".

Часта ў доме Міхала Федароўскага заседжваўся беларускі паэт Гальяш Леўчык (1880-1944), які тады жыў у Варшаве. Яму, як нікому іншаму, найбольш давяраў пан Федароўскі. Гальяш Леўчык шмат дапамагаў яму, дапамагаў шчыра і аддана. Многа кніг са сваёй сабранай бібліятэкі Міхал Федароўскі проста падараваў Гальяшу Леўчыку. І калі хто з беларусаў бываў тады ў Гальяша ў маленькай кватэрцы ў Варшаве на вуліцы Леапальдына,




*Экслібрыс М. Федароўскага*

35, кв. 32, то бачыў сярод шматлікіх кніг і тры тамы "Люду беларускага" з аўтографамі Федароўскага, падараваныя Гальяшу Леўчыку.

Жывучы стала ў Варшаве, Міхал Федароўскі паранейшаму не забываў Беларусь. Ён працягваў і ў Варшаве збіраць беларускія матэрыялы, просіць знаёмых дасылаць яму ўсё беларускае. Напрыклад, у лісце да Цэцыліі Снягоцкай у Львоў, у 1908 годзе Федароўскі просіць дасылаць яму кніжачкі. якія тычацца Русі Літоўскай (Янка Саламевіч. Міхал Федароўскі. Мн., 1972. С. 354).

З Варшавы Міхал Федароўскі вёў вялікую перапіску з супрацоўнікамі "Нашай нівы", "Bielarusa", прыватнымі асобамі. І пастаянна працаваў над "Людам беларускім". Але жыць у Варшаве з матэрыяльнага боку Міхалу Федароўскаму было вельмі цяжка. Таму, каб знайсці сродкі для існавання, ён прадаваў свае калекцыі варшаўскім бібліяфілам, гандлярам старажытнасці, тым, хто цікавіўся антыкварам, быў пасрэднікам у некаторых гандлёвых здзелках. Многія рэчы ён прадаваў вельмі танна, а таксама ахвяраваў музеям, архівам і бібліятэкам Польшчы.

Напачатку 1920-х гадах ён пачаў хварэць. А 10 чэрвеня 1923 года Міхала Федароўскага не стала. Яго пахавалі на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве. На надмагільнай пліце сябры Варшаўскага навуковага таварыства напісалі: "Міхал Федароўскі, этнограф, аўтар "Люду беларускага". 1853-1923".

*Сяргей ЧЫГРЫН.*

*Фотаздымкі з архіва аўтара.*




Станіслаў Лорэнц

# Наваградчына, *працяг*

*(Працяг, пачатак у Наша слова.pdf № 23 (75), 7 чэрвеня 2023.)*

На працягу некалькіх гадоў розныя наведвальнікі Наваградка: моладзь, вайскоўцы, розныя арганізацыі, эпізадычна і павольна насыпалі курган у памяць Міцкевіча. Каб значна паскорыць і завяршыць насыпанне кургана, мабілізавалі войска. Паважным у гэтай справе быў і наш унёсак - грунт і друз з тэрыторыі замка. 1 чэрвеня (1931 г.) ля падножжа кургана адбылася цырымонія пачатку дзён Міцкевіча. Выступаў Бэчковіч, тады ўжо віленскі ваявода. Шэфства над Камітэтам па ўвекавечанні памяці Адама Міцкевіча ўзялі прэзідэнт Ігнацы Масціцкі і маршал Юзаф Пілсудскі. Першую тачку зямлі на вяршыню кургана прывезлі ваявода Бэчковіч[1] і старшыня земскага суда Генрык Мурашка. З гэтага моманту моладзь і людзі старэйшага ўзросту, якія індывідуальна ці турыстычнымі групамі прыязджалі ў Наваградак, прынялі ўдзел у будаўніцтве кургана, пры гэтым кожны атрымліваў пячатку і ўпісваўся ў ганаровую кнігу. 7 чэрвеня ў Наваградку адбылося свята песні, у якім удзельнічалі спеўныя гурткі школьнай і сельскай моладзі ваяводства, а 21 чэрвеня - з'езд членаў найбольш шматлікіх арганізацый па падтрымцы арміі, прыбылі таксама дэлегацыі ўсіх армейскіх частак, якія кватаравалі ў ваяводстве і суседніх паветах.

28 чэрвеня ў Наваградку завяршыліся ўрачыстасці месяца Міцкевіча. У гэты дзень сабраліся прадстаўнікі ўраду, прафесара паланістыкі ўніверсітэтаў, пісьменнікі (Серашэўскі, Налкоўская, Парандоўскі, Кляшчынскі, Гёталь ды іншыя), віленскія літаратары: Лапалеўская, Дабачэўская, Ромер-Ачанкоўская, магчыма, Гулевіч, Люк Хаміньскі, Вітольд Станевіч, Мірак Сляндзіньскі, Хапэн, Квяткоўскія, Балзукевіч, Вяслаўскія, Маралоўскі і яшчэ Рэмер з Варшавы - усіх не памятаю, але гасцей у той дзень было больш за сто. Бэчковіч запрасіў біскупа Уладзіслава Бандурскага, былога капелана легіёнаў, і менавіта ён, а не дыяцэзіяльныя ўлады, прадстаўляў духавенства. Вацлаў Серашэўскі[2] прывёз апошнюю ганаровую тачку на вяршыню і з вяршыні кургана выступіў з прамовай. Курган меў 17 метраў у вышыню і 30 метраў у шырыню.

Мы арганізавалі выставу ў будынку Ваяводскай управы на вызваленым для гэтага першым паверсе (былы будынак кляштара дамініканцаў). На выставе было прадстаўлена 512 экспанатаў. У яе аснову пакладзены шматлікія прадметы, запазычаныя Янам Міхальскім з Варшавы, Аляксандрам Сямковічам са Львова і Юзафам Рыхлевічам з Вільні. Тут меліся 26 рукапісаў, 49 замежных выданняў твораў Міцкевіча, 5 сцэнічных апрацовак, 65 перакладаў на розныя мовы, 45 нотных зборнікаў да паэзіі Міцкевіча, 9 твораў філаматаў, 184 даследаванні жыцця і творчасці Адама Міцкевіча, 18 розных кніг, 70 партрэтаў Міцкевіча, 16 розных партрэтаў, 10 гістарычных карцін і відаў, 9 сувеніраў.

Праграма закрыцця месячніка Міцкевіча ў Наваградку ў нядзелю 28 чэрвеня ўключала ў сябе:

11-00 - урачыстае набажэнства ў старадаўнім фарным касцёле. Была выстаўлена метрычная кніга парафіяльнага касцёла за 1782-1805 гг. з запісам пра Адама Міцкевіча, гэта кніга была, бадай, самай вялікай каштоўнасцю.

12-00 - завяршэнне насыпання кургана-помніка і перадача яго пад апеку горада.

13:00 - выстава пра Міцкевіча.

14.00 - 17.00 - прыём ежы, урачыстая акадэмія ў зале гарадскога тэатра.

20.00 - вечар у замку: рэгіянальныя спевы.

На панядзелак, 29 чэрвеня, у праграме меліся: "Калектыўныя вандроўкі па памятных мясцінах пад кіраўніцтвам прафесійных экскурсаводаў". У сваім камюніке Камітэт па святкаванні паведаміў, што праезд на аўтобусе да Свіцязі каштуе 3 злотыя, начлег у інтэрнаце над гэтым возерам для членаў групавых паездак па 50 грошаў з асобы, для неарганізаваных турыстаў у агульным пакоі -

---

[1] "... былі і ліберальныя палякі. У Наваградак, напрыклад, прыйшоў ваявода Бэчковіч, які пасля быў ваяводам віленскім. Дык ён адзін з першых польскіх лібералаў зацікавіўся беларускай справай і нават хацеў дапамагчы беларусам, каб вырваць іх з-пад камуністычнага ўплыву. Нават прыходзіў да нас у (беларускую) гімназію інспектаваць нашу дзейнасць. Пазней ён дапамог атрымаць ёй дзяржаўныя правы. Бо раней беларускія гімназіі не мелі ніякіх правоў, былі прыватныя, а паступіць у польскія беларусам не давалі. Беларусы змушаны былі ехаць у Чэхію. ... у 28-м годзе з дапамогай ваяводы Бэчковіча мы здолелі атрымаць дзяржаўныя правы, і не трэба было ехаць у Чэхію, ехалі ў Вільню ці Варшаву і там канчалі ўніверсітэты. Дапамагала ў гэтым таксама Тэкля Грынеўская, жонка наваградскага старасты, полька беларускага паходжання, якая пазітыўна ўплывала на Бэчковіча. ... Перад самай вайной польскія ўлады так прыціснулі нас за беларускую справу, што немагчыма было дыхаць. Мы, настаўнікі, скончыўшы адзін год, не ведалі, ці пачнём другі, Так цяжка стала, што мы рашылі пажаліцца. І зрабілі беларускую дэлегацыю ў Варшаву - да паслоў у Сойме і ўлады. ... А на той час Зыгмунд Бэчковіч, які добра да мяне ставіўся, стаў ужо сенатарам. Мы пайшлі да яго, каб ён нам дапамог пабачыць высокіх міністраў. А той кажа: "Мяне так адсунулі, што цяпер я для вас нічога ўжо зрабіць не магу"". - цыт па: Аповяды Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 года ў Франкфурце-на-Майне // Народная Воля. 2012. 48-49. - *Л. Л.*

[2] Вацлаў Каятан Серашэўскі (1858 - 1945), грамадскі і палітычны дзеяч, кавалер ордэна Virtuti Militari, пісьменнік, сібірскі ссыльны, падарожнік, даследчык, этнограф Сібіры і, дэпутат Сойма і сенатар. - *Л. Л.*

першая ноч 1,20 зл., наступная ноч 0,80 зл., асобны пакой 2 зл.

Ваявода Бэчковіч загадаў мне запрасіць пасля наведвання замка на вечар 28 чэрвеня, 20 асоб на вячэру - канешне, за кошт Камітэта. Я замовіў лепшы ў Навагрулку рэстаран Лайпунэра (яўрэйскі), узровень якога значна перавышаў маштабы горада з шасцю тысячамі жыхароў (столькі ў Навагрудку было людзей). Гэты рэстаран хутчэй падыходзіў для абшарнікаў і заможных людзей. Кухня ў ім была выдатная і разнастайная, меліся лепшыя айчынныя і замежныя напоі. Рэстаран месціўся на першым паверсе і меў вялікую залу. Я замовіў аркестр, і мы з жонкай Ірэнай сталі гаспадарамі вечарыны. Не памятаю, хто прысутнічаў на гэтай вячэры, але госці былі і з Варшавы і з Вільні. Атмасфера вечара адрознівалася прыемнасцю і нязмушанасцю, настрой хутка падняўся і танцавалі амаль што ўсе. Мне, як вядоўцу, трэба было сачыць, хто з дам карыстаецца меншай увагай, і запрашаць іх на танец. Налкоўская танцавала вельмі ахвотна, але яна была завялікая і зацяжкая для танцаў. Так здаралася, што мне давялося танцаваць з ёй амаль што ўвесь вечар. Танцуючы, я стаміўся яе паварочваць, і таму ў мяне ўзнікла ідэя самому абярнуцца вакол яе. Такі метад даў вельмі добрыя вынікі.




*Навагрудскі, а потым віленскі ваявода Зыгмунт Бэчковіч, 1931 г. (злева). Зыгмунт Бэчковіч і Станіслаў Лорэнц, 1978 г. (справа).*

Ужо развіднела калі мы выйшлі з рэстарана. Каб асвяжыцца, група віленцаў вырашыла зайсці яшчэ і ў замак. Скажу праўду, што мы, мужчыны, былі ў вельмі-вельмі вясёлым настроі. Для мяне ў такія моманты Ірэна заўсёды была каменем, яна не любіла піць алкаголь, дазваляла сабе максімум адзін-два кілішкі. На замкавай гары мы пачалі думаць, ці цяжка будзе падняцца на руіны замкавай вежы (каля 20 м). Баляслаў Балзукевіч, якога мы звалі "Балзук", намеснік прафесара скульптуры ў Вільні, старэйшы за мяне гадоў на 20, як і ўсе даволі п'яны, сказаў: "А я б залез…". "Вы спалохаліся б …". "Не, не спалохаўся б …", і ён насамрэч вельмі п'яны, пачаў караскацца ўверх пакуль не дасягнуў вяршыні. Аднак, калі ён зірнуў адтуль уніз, адразу працверазеў і, прыціснуўшыся да сцяны, пачаў гаварыць, што не можа спусціцца, бо гэта занадта высока. Мы таксама трохі працверазелі, а паколькі ўгаварыць яго спусціцца ніяк не атрымлівалася, дык пачалі раіцца, што нам рабіць далей, ці можна падвесці сюды пажарную машыну з драбінамі? Розныя думкі выказвалі Сляндзінскі, Хапэн, Квяткоўскі, нарэшце нехта з іх падказаў, што трэба пачаць кідаць камяні ў Балзука і тады ён спалохаецца і спусціцца ўніз. І вось вы пачалі працаваць. І сапраўды, Балзукевіч, чапляючыся за сцены, пачаў апускацца і праз нейкі час ужо шчаслівы стаяў на зямлі.

На наступны дзень Бэчковіч з біскупам Бандурскім вяртаўся на машыне ў Вільню і прапанаваў Ірэне паехаць з імі, што і адбылося. Мне давялося застацца, каб назіраць за экскурсіямі і завяршэннем цырымоніі.

Я мушу адзначыць яшчэ дзве вельмі важныя мясцовасці, з якімі я пазнаёміўся ці то ў 1929, ці то ў 1930 г.

Першая - Чомбрава, дзе можна ўбачыць Сапліцова з "Пана Тадэвуша". Мар'ян Карповіч, прафесар гісторыі мастацтваў Варшаўскага ўніверсітэта, нядаўна сказаў, што ў дзяцінстве ён бачыў мяне ў доме сваіх дзядулі і бабулі Карповічаў у Чомбраве. Я падзяляю думку прафесара Пігоня і Баравога, што ўспаміны Адама Міцкевіча аб гэтых мясцінах паўплывалі на фарміраванне паэтычнага бачання Сапліцова. Бо Чомбрава ён ведаў з дзяцінства - яго маці была дачкой чомбраўскага эканома, а суддзёва Узлоўская (Узлоўскія ў той час валодалі Чомбравам) была хрышчонай маці Адама Міцкевіча.

Другая мясцовасць - Мір. Замак (або руіны замка), сапраўды цудоўны, вялікі і прыгожа размешчаны. Гэты гатычны замак з пяццю вежамі пабудаваны ў пачатку XVI ст. і быў населены да першай паловы XIX ст. Заняпаў толькі, калі перайшоў ад Радзівілаў да Вітгенштэйнаў. Замак быў выкуплены (не ведаю, калі) Мірскімі (напэўна рускай лініі), бо князь Міхал Святаполк-Мірскі, які з'яўляўся ўладальнікам Міра ў апошнія дваццаць гадоў і якога я ведаў, меў белую бараду і выглядаў, як тыповы расійскі саноўнік. Быў праваслаўным і нездарма да Першай сусветнай вайны займаў пасаду губернатара на

Каўказе. Адразу пасля вайны ён змяніў веравызнанне з праваслаўнага на каталіцкае, патлумачыўшы гэта тым, што ў Польшчы праваслаўныя - гэта толькі сяляне.

Пасля Першай сусветнай вайны Мірскі пасяліўся ў былой сядзібе адміністратара, адкрыў вялікую гаспадарку, цагельню, ткацкія варштаты, пабудаваў вінакурню і спіртзавод. А калі ў яго з'явіліся адпаведныя фінансавыя магчымасці, пачаў рэканструкцыю замка, у тым ліку і яго жылых памяшканняў. Праекты інтэр'ераў падрыхтаваў архітэктар Тэадор Буршэ. Мірскі, які пасяліўся ў замку, быў захоплены ім і жыў ідэяй аднаўлення замка, ён асабіста ўдзельнічаў у праектаванні рэканструкцыі. Князь купіў сабе Dictionnaire raisonny de l'architecture franeaise du XI-e au XVI-e siecle Viollet-le-Duc[3] (Віёлле-ле-Дзюк. Толковый словарь французской архитектуры XI-XVI века), з якога чэрпаў мадэлі для сваіх ідэй.

Мірскі прыняў мяне прыязна, але потым крыху расчараваўся. Пра свой прыезд я паведаміў лістом. Ён са здзіўленнем сказаў мне, што спадзяваўся ўбачыць сур'ёзнага старога чалавека. Я хутка зразумеў, што ён паспрабуе мяне праверыць. Аднойчы князь згадаў імя Віёле-ле-Дзюк і зірнуў на мяне, каб даведацца, ці значыць гэта для мяне што-небудзь. Я адразу пачаў з ім дыскусію наконт засцярог рэстаўратараў ад занадта рабскага пераймання задум Віёле-ле-Дзюка і ўбачыў, што ён пачаў мяне паважаць. Аднойчы князь Мірскі сказаў, што вялікая зала на першым паверсе была яго "белым сланом". Ён паглядзеў на мяне і спытаў, ці ведаю я, чаму ён назваў яе сваім "белым сланом". Я адказаў, што, гэта нешта абсалютна бескарыснае, вельмі дарагое і маніякальна жаданае. Мой адказ змяніў атмасферу размовы, і ён пачаў ставіцца да мяне роўна і па-сяброўску. Запрасіў на абед. Было вельмі смешна. За сталом сядзела пляменніца Наташа, адзін з двух яго пляменнікаў і яшчэ некалькі чалавек. Калі мы ўсе селі, урачыста ўвайшоў кухар у белым фартуху і ў высокім капелюшы, па камандзе князя ён зачытаў меню па-французску, але з такім мясцовым вымаўленнем, што разабраць яго было цяжка. Я вельмі хацеў убачыць гэтую старонку меню, але было непрыстойна прасіць яе.

Размова за сталом была для мяне вельмі няёмкай, у нейкі момант гаспадар сказаў што Наташа дурная. Пра свайго пляменніка ён сказаў, што той разбойнік і ён увесь час мае з ім непрыемнасці. Князя злавала, што яны нічога не разумеюць у справе адбудовы замка. Мірскі размаўляў па-польску з расійскім акцэнтам, напэўна, яшчэ горшым, чым у генерала Жалігоўскага. Пасля абеду ён размаўляў са мной крыху па-польску, крыху па-французску. Рассталіся мы вельмі сардэчна.

Я не верыў, што Мірскія здолеюць аднавіць для сабе ў замку жылыя апартаменты. І памыліўся. Незадоўга да вайны, верагодна, у 1937 ці 1938 г. Мірскія пераехалі ў замак[4].

За сем гадоў я добра пазнаёміўся з помнікамі і гістарычнымі мясцовасцямі Навагрдскага ваяводства. Па ініцыятыве Слонімскага аддзела Польскага краязнаўчага таварыства у 1933 г. я нават выдаў "Слонімскія вандроўкі. Кароткі аглядны даведнік па Слоніме і Альбярціне, Быцені, Дзярэчыне, Мерачоўшчыне, Ружанах, Сынкавічах, Дзятлаве і Жыровіцах".

Калі Бэчковіч пераехаў у Вільню, я страціў ахвоту да больш цесных кантактаў з Наваградкам, бо ў 1931 г. ваяводам стаў палкоўнік Костак-Бярнацкі[5]. У гэты час мне патэлефанавалі з Навагрдскай ваяводскай управы з просьбай прыехаць у Наваградак, каб прадставіцца новаму ваяводзе. Я зрабіў гэта па неабходнасці, але з агідай. Мой візіт да новага ваяводы быў толькі фармальнасцю. Яго не цікавіла ні захаванне помнікаў, ні культура. Ён быў тут ваяводам каля года, і, на шчасце, я больш не меў з ім кантактаў. Я не жадаў размаўляць з былым начальнікам жандармерыі легіёнаў і камендантам Берасцейскай цвердзі ў 1930 г., у якой тады была турма для апазіцыйных дзеячаў.

***Пераклад і каментары Леаніда Лаўрэша.***

[3]Эжэн Эманюэль Віёлле-ле-Дзюк (Eugene Emmanuel Viollet-le-Duc, 1814 - 1879) - французскі архітэктар, рэстаўратар, мастацтвазнаўца і гісторык архітэктуры, ідэолаг рэстаўрацыі помнікаў гісторыі. - *Л. Л.*

[4] Вось як апісаў рэдактар газеты "Лідская Зямля" сустрэчу з гаспадаром Мірскага замка ў 1938 г.: "Міхал князь Святаполк-Мірскі ў свае 70 гадоў мае рэзкае і чэрствае аблічча.

- Што спадароў прывяло да мяне? - задае першае пытанне.

- Прагнем нешта даведацца пра аднаўленне замка.

- Ну, што … Замак - гэта руіна. А другая руіна, калі спадарству цікава - ён лагодна ўсміхаецца і паказвае на сябе пальцам - гэта я… Работы па адбудове вяду 17 гадоў. За гэты час адбудаваў чатыры вежы і многа пакояў. Але не маю шмат грошай. Мае мажлівасці - адзін пакой у год. Сп. Прэзідэнт, калі быў у гасцях, сказаў: "Хто будуе - той не ўмірае". Таму, я яшчэ маю час.

У зале, дзе адбываецца аўдыенцыя, яшчэ захавалася першапачатковая столь, якую падпіраюць аркады калон. Пасля запісу нас у кнігу наведвальнікаў князь моцна паціскае нашы рукі.

Пакідаем замкавы дзядзінец разам з усім гэтым сярэдневяковым помнікам, і між волі ў галаву прыходзіць думка пра адвечную цягу чалавека да старажытнасці". - *Л. Л.*

[5] Вацлаў Костак-Бярнацкі (1884 - 1957), дзяржаўны дзеяч міжваеннай Польшчы, паплечнік Пілсудскага.

У 1930 г. Костак-Бярнацкі быў прызначаны камендантам Берасцейскай цвердзі, якая служыла турмой для палітвязняў, працоўнікаў Пілсудскага, у тым ліку асуджаных былых парламентарыяў. З 1 ліпеня 1931 па 8 верасня 1932 г. быў ваяводам Наваградскага ваяводства, а з 8 верасня 1932 па 2 верасня 1939 г. - ваяводам Палескага ваяводства. Пры ім нацыянальная палітыка польскіх уладаў на Палессі набыла выразны асіміляцыйны і рэпрэсіўны характар. Ён быў адным са стваральнікаў лагера жорсткага рэжыму ў Бярозе - *Л. Л.*



№ 36 (88) 6 ВЕРАСНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *З тлінкітамі, атапаскамі, кекчы і іншымі: Грынкевіч, Вольга; індзейская і беларуская "мова зямлі" ў Амерыцы, напамін пра індзейцаў у тапаніміі Беларусі*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-35 (53-87) за 2023 г.)*

1. 04. 1988 г. мы звярнуліся да маладой пісьменніцы ў Оршы:

*"Дарагая Танана!*

*Не лічыце такі зварот фамільярнасцю ці чымсьці ў гэтым родзе. Піша да Вас індзеяніст, і імя "Танана" гучыць для яго салодкай музыкай; вымаўленае ў паўголаса [так] або пра сябе, яно - сама загадкавасць […] цэлае індзейскае племя завецца танана. А жыве яно ў тых краях, дзе шукалі золата героі Джэка Лондана.*

*Кажуць, у Вас і знешнасць індзейская".*

Пазней рэальнасцю сталі і абмены з лідарамі і *"правадырамі танана"* - Сэмуэлем Дзяменцьеф і яго сынам Адамам. Сэм нарадзіўся ў Холі-Крос (былым "Касерэфскі", які мы лічым беларускай назвай), яго бацька трымаў баржу на рэках Юкан і Танана, а сам ён пазней плаваў па Танане *"і зімой, і летам"*.

Паралелі паміж назвамі ў Беларусі і ў індзейцаў, напрыклад, прапаноўваў Яўген Гучок: птушка каўка ў Беларусі - і птушка каўка (каўка гуан), рака Каўка (Cauca) і іншае ў Калумбіі. Да такога не дайшлі сур'ёзныя тапанімісты, але параўнанні ў гэтай сферы маюць сэнс.



Дарагая Танана!
Не лічыце такі зварот фамільярнасцю або чымсьці ў гэтым родзе. Піша до Вас індзеяніст, і імя "Танана" гучыць для яго салодкай музыкай; вымаўленае ў паўголаса або пра сябе, яно - сама загадкавасць. Цэлае індзейскае племя завецца танана. А жыве яно ў тых краях, дзе шукалі золата героі Джэка Лондана.
Кажуць, у Вас і знешнасць індзейская.
Даруйце мне гэты збянтэжваючы уступ.
Гаворка пойдзе пра рэчы больш сур'ёзныя. Магчыма, Вы што-небудзь чулі пра Беларуска-індзейскае (або Беларускае індзеяністычнае) таварыства? Добра, калі так, але усё-роўна патрэбны тлумачэнні, перад тым як прапанаваць Вам удзел у складзе групы Беларусістыкі. БІТ. Шкада, што ні адзін з маіх прыездаў у Оршу не быў паспяховым у сэнсе сустрэч з аматарамі [illegible] або маладымі літаратарамі.
Зараз мы хацелі б аднавіць [illegible] перапіску і просьбай да Вас расказаць пра сябе. Мы, напэўна, маем права спадзявацца пачуць Вас, бо мы - гэта ўжо не адзін дзесятак індзеяністаў, кожны са сваёй уласнай [illegible] гісторыяй.
Як Вы ставіцеся да індзейцаў, да Белай Амерыкі і да перспектывы пераўтварыць Белую Амерыку ў чырвоную індзейскую?

1.4.1988
Гомель

З павагай
[illegible]

***Tanana. Belarusian writer. Letter to Alena Tanana Танана 1988-04-01***

Досыць падрабязны агляд індзейскай тапаніміі зрабіў у вучэбным дапаможніку для геаграфічных факультэтаў ВНУ "Тапаніміка. Кароткі геаграфічны нарыс" В. Жучкевіч (1965). Другое выданне было ў 1968 г. Матэрыял па замежнай тапаніміі, улічваючы нібыта цяжкасць яе засваення студэнтамі, не быў уключаны ў 3-е выданне (1980), аўтар рыхтаваў па ёй асобную манаграфію, але, верагодна, не закончыў у сувязі са смерцю; такім чынам, у апошняй рэдакцыі засталася толькі зусім кароткая характарыстыка *"карэннага плата"*.

Аўтар характарызуе *"карэнную тапаніміку з індзейскіх"* моў у Паўночнай (гл. VI, с. 262-277 і Паўднёвай (гл. VII, с. 278-285) Амерыцы з пункту гледжання захавання, трансфармацыі і асіміляцыі, паходжання назваў з асобных моў - спачатку ў цэлым, а потым асобна на Алясцы, у Канадзе, ЗША, Мексіцы і Цэнтральнай Амерыцы, на Пазаандыйскім Усходзе і Кардыльерскім Захадзе, групуючы індзейскія назвы па аронімах, гідронімах, назвах пасяленняў, па прыналежнасці да асобных моў і моўных груп: вылучаюцца атабаскскія, альгонскія (г. зн. алганкінскія), якая займае першае месца па колькасці назваў у Канадзе. *"Значна менш"* - група сіў, яшчэ менш - ацтэкская і *"ненутская"* (пенуці) у ЗША, наўа, кечуа. Дае прыклады і *"аймарска-кечуанскіх назваў"*, араўканскіх, цэнтральна-амерыканскіх (міскіта-матага-льпа, майя, карыбскія) *"пераасэнсаванняў"*. Жучкевіч нейкім чынам здвоіў "п", называючы апачаў.

Паводле алфавітнага спісу, зробленага намі і змешчанага ў "Бюлетэні ІС БІТ", усяго Жучкевічам прыведзеныя 187 тапонімаў індзейскага паходжання, прычым даецца значэнне многіх з іх. Аўтарам выкарыстаны працы вядомых тапаністаў - Дж. Сцюарта ("Г. Стеварда"), Н. Холмера, І. П. Літвіна, а таксама звесткі з капітальнага выдання "Народы Амерыкі" (т. 1-2, 1959).

В. Жучкевіч прыводзіць вялікую колькасць прыкладаў індзейскіх гідронімаў (назваў рэк і азёр): Юкан, Танана, Сусітна, Чыстоціна, Цітна, Сулукна, Алатна на Алясцы, Вініпег, Эры, Антарыа, Ніягара, Атава, Ніпіган, Ніпісанг, Цеміскамінг, Атавапіскаў, Апіскатэс, Пцісікапа, Мічыкамі, Канияпсика, Абіска, Асінібойн(і), Саскачэван, Маніготага ў Канадзе; Нешаміні, Талпехокі, Каневога, Цеахніёга, Алтамаха, Уочыта, Нінеска, Чыкамога, Акічобі ў ЗША; Парамайба, Парагвай, Пара, Гуапарэ, Мапуэрэ, Жаўаперы, Укаялі, Арыкуакан [Арыпуанан], Парана, Парагвай, Паранайба [Паранаіба], Парапарана, Ігарапарана, Мараціпарана, Пара ў Паўднёвай Амерыцы.

(Многія нашы варыянты не ўлічваюць націск,





Дабрадзень паважаны Алесь!
Ліст Ваш быў для мяне нечаканасцю, вядома.
Але што-ніпшто пра беларуска-індзейскае таварыства я чула, прызнацца, ведала, што аматары такія ёсць (напрыклад, не так даўно ў "Чырвонай змене" быў змешчаны ліст хлопца нейкага з Мінску, які таксама цікавіцца гэтым).
Ніколі б не падумала, што мая асоба можа выклікаць цікавасць індзеаністаў!
Сама я нарадзілася ў Віцебску, бацькі мае з Пастаўскага раёна, в. Лісіцы, недалёка ад таго самага Лучая, дзе збіраюцца рэстаўраваць касцёл, наставіць арган і вадзіць з Нарачы "курортнікаў". Дарэчы, амаль усё насельніцтва гэтай вёскі носіць такое ж прозвішча - Танана. Там яшчэ і дагэтуль можна пачуць польскую гаворку, мешаную з беларускай мовай. А вось пра нейкую там Аляску, дзе ёсць рэчка і горад пад "нашым" прозвішчам, там, мабыць, і не ведаюць (бо і народу там амаль што не засталося, усяго нейкіх 6-7 дамоў). Нічога я не ведаю пра тое, ці апынуліся тут, у Беларусі, індзейцы з племені танана, ці наадварот - ніколі не чула, адкуль у заходняй частцы Беларусі ўзяліся індзейцы. Калісьці з тых мясцін ездзілі ў Амерыку на заробкі, пасля вярталіся на радзіму... Толькі такі шлях "інтэрвенцыі" мне здаецца верагодным...
Але ж - мушу вас, мабыць, здзівіць: слоўнік беларускіх прозвішчаў мае тлумачэнне не з лепшага боку, фразеалагізм "тананы біць" ці "тананкі біць" - тое ж самае, што і "лынды біць". Так што - "гультай", "абібок", г.д.!

*Letter from Alena Tanana 1988-04-20 p. 1 of 2*

А Вы кажаце "чуць салодкай музыкі"...
І знешнасць у мяне - тыпова беларуская (у чым можна пераканацца хаця б з фотаздымка ў "Маладосці" №1 за 1988 г.)
Ну, ці расчаравала я Вас?
Не веру, але наўрад ці змагу прынесці нейкую карысць Вам ці Вашай Амерыцы...
Таксама што мне не цесна ў Оршы - я тут працую 2-гі год пасля размеркавання з інстытута, у сярэдняй школе №16 - а пра дзейнасць "Повязі" Вам ужо вядома.
Зразумела, і я, і наш клуб аматараў гісторыі і даўніны прапануе вам усім сваю дапамогу, калі яна спатрэбіцца - пра гэта, канешне, Вам ужо напісала Галіна Касачова. Звяртайцеся, калі ласка!
Жадаю Вам імпэту і працавітасці, поспеху ва ўсіх добрых справах!

Алена Танана
20.04.88 г.

*Ліст ад Алены Танана (Орша) 1988-04-20 с. 2 з 2-х*

прыняты ў краінах Амерыкі, - мы гарманізуем вымаўленне для беларускай мовы.)

Пра "ўклад" індзейцаў у тапаніміку ЗША В. Жучкевіч пісаў: *"Абарыгенная тапаніміка прадстаўленая ў большай ці меншай ступені ва ўсіх частках краіны. Больш за ўсё карэнных назваў у абласцях, даўно заселеных і асвоеных, там, дзе еўрапейскія пасяленцы доўгі час пражывалі ў блізкім суседстве з карэнным насельніцтвам і ўспрынялі іх назвы геаграфічных аб'ектаў. У абласцях жа нядаўняга асваення, заселеных тады, калі карэннае насельніцтва было ўжо амаль знішчана, абарыгенная тапаніміка захавалася вельмі дрэнна. Лепш утрымалася карэнная лексіка ў назвах рэк, азёр, форм рэльефу, у назвах жа паселішчаў яна амаль знікла. Гэта свайго роду помнік шматмільённаму індзейскаму насельніцтву, ад якога захаваліся толькі рэшткі ў рэзервацыях, раскіданых невялікімі ўчасткамі па ўсей тэрыторыі ЗША".*

Прыкладаў аб'яднання ў адным тапоніме індзейскіх і беларускіх элементаў прывесці мы не можам, але яны знаходзяцца па суседстве на карце і ўжываюцца разам, калі гаворка ідзе пра ўдакладненне месцазнаходжання населеных пунктаў у пэўным штаце, дэпартаменце або правінцыі, графстве, акрузе і г.д., а таксама ў спалучэнні з элементамі, якія ўказваюць на адзінку ў геаграфічнай наменклатуры (востраў, графства).

Найбольш распаўсюджаны ў ЗША тапонім, які паходзіць ад тыпова беларускага антрапоніма, - Касцюшка. Іменем гэтага выдатнага ўраджэнца Беларусі названы, напрыклад, невялікі горад у графстве Атала ў штаце Місісіпі, на рацэ Ёканукані (Yockanookany, з мовы чокта (Choctaw) "land creek"). Пачатак яго гісторыі звязваецца з французскім гандляром David Choate і яго жонкай з чокта, якія пасля вайны 1812 г. адкрылі таверну на Натчэзскім тракце (Natchez Trace) і сям'я якіх была прымусова перaселеная ў 1850 г. на Індзейскую тэрыторыю.

Гордае імя Касцюшкі носяць графства і населены пункт у штаце Індыяна, паселішчы ў Тэхасе (графства Уілсан), Паўднёвай Дакоце (1884, графства Дэй: Township of Kosciusko, Day County, South Dakota - з назваў па-суседстве - Fort Sisseton Historic State Park; у графстве Дэй някепскі працэнт індзейцаў - каля 10 (у ім знаходзіцца частка рэзервацыі Лейк-Траверс - Lake Traverse Indian Reservation - для сісетон-вахпетон санці сіў -Sisseton Wahpeton), у той час як асоб польскага паходжання (абавязкова шукайце сярод іх беларусаў) - каля 13), Вісконсіне (іншая назва - Джэнінгс, графства Анейда, 1895 або 1897), а таксама ў Каліфорніі ў гарах Сьера-Невада на рацэ Сакрамента, востраў у архіпелагу Аляксандра каля ўзбярэжжа Аляскі (час ад часу яго, "безыменнага", наведвалі індзейцы, даследаваў упершыню і даў назву амерыканскі географ Уільям Дэл у 1879 г.). Пра Касцюшку нагадваюць назвы ўчасткаў зямлі ў Уэст-Пойнт (нацыянальны парк Касцюшка-Гардэн) і штаце Агая (Касцюшка-Лэндс на рацэ Саёта (Scioto), недзе на граніцы графства Дэлавар).

Пад гэтай назвай можна знайсці горад у правінцыі Квебек, і яно карысталася папулярнасцю і ў славянскіх





ALES SIMAKOU
BYELRUSSIAN - AMERICAN INDIAN SOCIETY
19-78, 5 MICRODISTRICT, GOMEL
246049, GOMEL, BSSR, USSR

DEAR ALES:

I HAVE IN FRONT OF ME, TWO OF YOUR LETTERS. THE FIRST LETTER IS DATED AUGUST 17, 1989. IT IS WRITTEN TO THE EDITOR OF THE TUNDRA TIMES, CONCERNING HOPEFUL CONTACTS IN ALASKA, AND MORE SPECIFICALLY, RESIDENTS OF HOLY CROSS (OLD KOSCREFSKY). THE NEXT LETTER IS DATED NOVEMBER 1, 1990, AND IS ADDRESSED TO JIM WALTON, WHO IS A GOOD FRIEND OF MINE.

JIM AND I CONFIDE IN EACH OTHER IN SPIRITUAL GROWTH AND DEVELOPMENT, AS IT RELATES TO NATIVE AMERICAN INDIAN BELIEFS

***Tanana, Alaska. Letter from Samuel Demientieff s.d. postmark Fairbanks, Alaska 1990-12-20 received 1991-01-28***

AND OUR OWN ALASKAN NATIVES BELIEFS.

I MADE COPIES OF YOUR LETTER TO THE TUNDRA TIMES EDITOR AND GAVE THEM TO ANOTHER GOOD FRIEND, LEROY PATSEY, WHO MAY ALSO HAVE WRITTEN TO YOU. BOTH LEROY AND I ARE FROM HOLY CROSS, ON THE YUKON RIVER. WE ARE NATIVE ALASKANS. MY HERITAGE IS RUSSIAN - ATHABASCAN INDIAN - GERMAN. ON MY MOTHER'S SIDE, HER FATHER WAS GERMAN AND HER MOTHER WAS ATHABASCAN INDIAN. MY GRAND FATHER WAS OF RUSSIAN DESCENT AND MY GRAND MOTHER WAS ATHABASCAN.

WE WERE VISITED, HERE IN FAIRBANKS BY TWO RUSSIAN (YAKUTIAN) OFFICIALS, BORODIN PAVEL PAVLOVICH AND ALEXEY TOMTOSOV. WE IN

***Ліст ад Сэмуэля Дзяменцьеф Demientieff p. 2 of 4***

TURN SENT 50 TO 60 PEOPLE TO YAKUTSK, IN AN EXCHANGE. THIS CULTURAL EXCHANGE IS AN ON GOING OPERATION, AND WILL CONTINUE.

I WAS VERY EXCITED TO READ YOUR FIRST LETTER ABOUT HOLY CROSS. I HAVE DONE SOME RESEARCH ON OUR RUSSIAN HERITAGE. MY GREAT-GRAND FATHER HELPED OPERATE A TRADING POST CALLED KOLMAKOVSKY REDOUBT, WHICH WAS LOCATED ON THE KUSKOKWIM RIVER, WHICH IS VERY CLOSE TO HOLY CROSS, OVER A SHORT DIVIDE. HIS NAME WAS NICHOLAI DEMENTIEV. I THINK HE DIED ABOUT 1864. MY GRAND FATHER, ALSO, CALLED NICHOLAI WAS BROUGHT HOLY CROSS ALONG WITH HIS THREE BROTHERS AND TWO SISTERS. I CANNOT FIND ANYMORE INFORMATION ON HIM. MY DAD'S

***Letter from Sam Demientieff p. 3 of 4***

NAME IS NICHOLAS EPHREM DEMIENTIEFF. HE IS STILL ALIVE.

I LOOK FORWARD TO HEAR FROM YOU.

I WISH YOU A MERRY CHRISTMAS, HAPPY NEW YEAR FOR 1991.

SAMUEL S DEMIENTIEFF
1270 HELDIVER
FAIRBANKS, ALASKA 9970

***Letter from S. Demientieff p. 4 of 4***

эмігрантаў у Паўднёвай Амерыцы. Так было названае, напрыклад, найбуйнейшае польскае пасяленне на рацэ Уругвай (1901).

Іменем нацыянальнага героя Чылі І. Дамейкі названы горы, парты станцыя, пасяленне - факт прысвaення імя гэтым аб'ектам часта паўтараецца ў літаратуры.

На карту Амерыкі трапілі імёны Івана Казырэўскага (індзейская вёска, якая потым злілася з горадам Холі-Крос, і рака на Алясцы), А. Міцкевіча, С. Манюшкі, а таксама Г. Сянкевіча, які насіў даволі беларускае па




Шаноўны спадар Алесь!

На жаль, не магу быць Вам карысным у Вашых Індзейскіх зацікаўленнях. Навука маркуе, што насельнікі Амерыкі прыйшлі туды праз Берынгаў мост, з Азіі. Ёсьць дасьледчыкі, якія знаходзяць індзейскія рысы ў часткі якутаў /сярод іх сутракаюцца з арлінымі насамі, прычым гэтая прыкмета вельмі ўстойліва перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне/. Але Індзейскага таварыства, падобнага да Вашага, у Якуцку пакуль што няма. Сувязі з Амерыкаю паціху наладжваюцца, але толькі з Аляскаю, дзе Індзейцаў няма. Я ў сваіх творах тэму Амерыкі не закранаў, больш цікавячыся Беларусьсю, Сярэдняй Азіяй ды Якуціяй.

Зрэшты, калі што-небудзь Індзейскае тут у нас выбліснe, пастараюся без маруду паведаміць Вам.

З павагаю

Іван Ласкоў.

1 кастрычніка 1991 года,
Якуцк.

***Letter from writer Ivan Laskou (Ласков, Ласкоў, Якуцк) 1991-10-01***

гучанні прозвішча (усе тры назвы ў правінцыі Квебек), М. Пржавальскага і А. Меншыкава, беларускае паходжанне якога "традыцыйна выклікае сумненні ў гісторыкаў" (мысы на Алясцы, першы на возеры Бенета), Ягайлы і Галіцыных (населены пункт у графстве Камбія, штат Пенсільванія). Назвы як сведчанне актыўнасці графа М. Румянцава ў *"руска-амерыканскіх"* справах - не зусім *"беларускія"*, хіба толькі можна правесці іх паралель з вуліцай Румянцаўскай у Гомелі (цяпер Савецкая).

У тапаніміі Аляскі прысутнічае прозвішча Шадура - ад выхадца з Менскай губерні святара П. Шадуры і ў гонар яго вялікай беларуска-алеуцка-індзейскай сям'і.

Назвы некалькіх беларускіх або часткова беларускіх гарадоў і беларускія назвы небеларускіх геаграфічных аб'ектаў пераносіліся на іншыя кантыненты і ў акіяны. З катэгорыі "Назвы Беларусі і "беларускай" Літвы", верагодна, найбольш пашчасціла Вільні, якая "зарэгістраваная" ў правінцыі Альберта, штатах Мінесота (графства Вашынгтон), Нью-Мексіка (графства Грант), Нью-Ёрк (графства Джэферсан), Паўночная Караліна, Пенсільванія. Б. Кузьмінскі адносіць да польскіх населеныя пункты Ліда ў Мінесоце (на аднайменным возеры, графства Отэр-Тэйл) і Кентукі (Laurel County)

Дзякуючы расійскім мараплаўцам, што ўнеслі уклад у даследаванне антарктычнага рэгіёна, з'явіліся астравы Полацк і Бярэзіна ("паралельныя" назвы Робертс і Грынвіч). Многія маракі могуць прэтэндаваць у спіс тапонімаў беларускага паходжання ў Амерыцы або ў акіянах (згаданыя намі між іншым Станюковіч і Хромчанка - у чарзе як вакабулы нашай серыі).

Адзіная вядомая нам літаральная "беларуская" назва, магчыма, абазначае настолькі маленькі населены пункт, што яна можа быць знойдзеная, верагодна, толькі на самай падрабязнай і старой карце. Савецкі журналіст

БЮЛЕТЭНЬ ІС БІТ
№28 13.7.1992

І. МІЖПЛЕМЯННАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ПА ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРЦЫ БРЫТАНСКАЙ КАЛУМБІІ прыслала БІТ пакет дакументаў, якія адлюстроўваюць дзейнасць гэтай створанай у 1987 г. арганізацыі і "Нацыянальнай абарыгеннай асацыяцыі па лясной гаспадарцы", якая ўзнікла дзякуючы намаганння першай. Да пакета, атрыманага 7.7.1992, прыкладзены значкі Міжплемяннай асацыяцыі. ІС БІТ 92.7.13

2. ПЕТР ЛЫСЕНКА І УЛАДЗІМІР ПАЛУЯН СУПРАЦЬ АДРАДЖЭННЯ РАДЗІМІЧАУ
Вядомыя гісторыкі, якія ў верасні 1991 г. былі абазваны ў "Народнай газеце" "лысенкаўцамі", 8 ліпеня выступілі ў ей з вялікім артыкулам "Пазіцыі і амбіцыі Міколы Шалятовіча і яго паплечнікаў. Аб нацыянальнай прыналежнасці насельніцтва Заходняга Палесся і пазіцыях кіраўнікоў аб'яднання "Полісьсе". Вучоныя папярэджваюць, што "заўтра з такімі ж штучнымі высновамі і прэтэнзіямі могуць выступіць асобныя "наватары" ва Усходнім Палессі, над Неманам, Дзвіной, Дняпром, Сожам - нібыта ад імя дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў" і справа можа дайсці да "прымітыўных дзяржаўным утварэнняў, нешта на ўзор бантустанаў ці ўдзельных княстваў перыяду феадальнай раздробленасці з іх бясконцымі канфліктамі і ўсобіцамі". ІС БІТ 92.7.13

3. ПАМЯТНЫЯ ДАТЫ 22 ліпеня спаўняецца 60 год з дня нараджэння Леаніда Федаравіча Яўменава. Працаваў на ЭКСПА-67 у Манрэале, старшынстваваў на 43-яй сесіі Камісіі ААН па правах чалавека (1978), сустракаўся з Індзейцамі, у т.л. Стэфані Пелціер. Індзейскія ўражанні адлюстраваны у пяцё вершах зборніка "Чужая планета. Вершы далекіх дарог і вяртенняў" (1980). ІС БІТ 92.7.13

4. ТОПОНИМЫ-ИНДЕАНИЗМЫ в книге В.А.Жучкевича "Топонимика. Краткий географический очерк" (Минск,1965): Акала,Акапулько,Акатила,Акатлан, Аколхуакан,Аконкагуа,Алатна,Анни(епискау,Антагуаргара,Аппалачи,Арика, Арикуакан,Арканзас,Ассинибойни,Атакама,Аттаваникскат,Аттавапискау,Ауакалько,Ауатлан,Ахапама,Ахучитлан,Аяуапулько,Биобио,Богота,Вигастепек,Виннипег,Гавана,Гаити,Гуапоре,Гуаско,Гунзонтла,Гуичикови,Гусмантла,Дакота,Ерупахо,Жауапери,Игарапарана,Иллинойс,Истлауакан,Канзас, Канзас-Сити,Канианиско,Капескейсинг,Каракас,Кегудек,Кесальтенанго, Кито,Миужик,Коалькалько,Коатепетль,Конандейгва,Коневого,Конкон,Ксалиско,Ксалпан,Ксалтипка,Куба,Кулиакан,Куско,Лима,Ловене,Лоа,Макамик, Манагуа,Маниготаго,Мапуэре,Маратипарана,Массачуоетс,Матагальпа,Махонинг,Маякалан,Мекилпег,Метла,Миннесота,Минемине,Миссисипи,Миссури, Митлан,Митланцилко,Михуакан,Мичиган,Мичикамии,Момостепего,Мосханнок, Наунакатепетль,Наутла,Небраска,Нешамини,Ниагара,Никарагуа,Нинеско, Ниппигон,Ниписанг,Нуцитин,Огайо,Оздотитлан,Окичоби,Олентанги,Олтамахо,Омитлан,Онейда,Онтарио,Опискатес,Осуиго,Оттава,Папалоапан,Пара, Парагвай,Парамайбо,Парамирим,Парана,Паранайба,Парапарана,Пауатлан, Петатлан,Полотитлан,Поопо,Попокатепетль,Птисикапо,Романтла,Санахомулько,Саскатун,Саскачеван,Ситлалитепетль,Сосквегана,Сулукна,Сутитна,Талька,Тальтахль,Тамакханне,Танана,Тегусигальпа,Теколотитлан,Телолопан, Темискаминг,Темуко,Тенанго,Тенохтитлан,Теопан,Теохтиого,Тепан,Тепапапан,Тескольтитлан,Тетитла,Тетла,Титикака,Тихина,Тлала,Тлалнан,Толпехоки,Уанкаволика,Уанкайом,Уарас,Уармей,Уахуапам,Укаяли,Уобиско,Уосуонини,Уочито,Усумасинта,Учиста,Халькомулько,Хамалькуакан,Хунгальпа,Хутикальпа,Цоквипан,Цоквитла,Чайуко,Чигуа,Чикаго,Чикамага,Чилла,Чилоэ, Чильян,Чималпан,Чиманхуакан,Чимальтенанга,Чисточина,Чихуахуа,Чичигальпа,Чичмит,Шатокуа,Эри,Этла,Юкон,Юта,Ямайка. ІС БІТ 92.7.13

Бюлетэнь Інфармацыйнай службы Беларуска-Індзейскага таварыства
1 руб. Падпіска на любы тэрмін ("фрагменты"). 246049, Гомель, а/с 114.

***Бюлетэнь ІС БІТ 1992 № 28 1992-07-13. Newsletter of the Information Service of the Belarusian-Indian Society. We arranged alphabetically Indian place names from the 1965 Zhuchkevich book***

Б. Стрэльнікаў сустрэў назву "Беларусь" адначасова з такімі ж фермерскімі пасёлкамі - Кіеў і Расія, калі праязджаў праз Індыяну, Мінесоту і Паўночную Дакоту. Падобная "малая" назва - "Бэлэр-Менск" - *"адпачынковая беларуская гаспадарка у Кэтскільскіх гарах"*, пра якую нам паведамляў В. Кіпель.

У лінгвістычным тлумачэнні назваў Белая, Чорная і Чырвоная Русь П. Крапівін спасылаецца на прыклад возера Вініпег (па-індзейску - "брудная вада"), названага па забрудджанасці вады, спрабуючы даказаць, што назва Белая Русь мела (першапачатковае) значэнне "Белая вада", як называліся *"водныя крыніцы са светлай, празрыстай вадой"*.

У зборніку "Імя тваё Белая Русь" (1991), складзеным Г. М. Сагановічам, перадрукаваны таксама артыкул Вяч. Іванова "Колеравая сімволіка ў геаграфічных назвах у святле даных тыпалогіі (да назвы Беларусі), дзе акрамя прывядзення прыкладу асацыіраванай па колеры назвы ў мове мівак, заўважае, што тры "каляровыя" назвы Русі супадаюць з агульнаеўразійскай сістэмай суаднясення гэтых колераў з бакамі свету, якая тым не менш адроз-

ніваецца ад схем у Цэнтральнай і Паўднёвай Азіі і Амерыцы, што "павінна тлумачыцца наяўнасцю некаторай культурнай традыцыі".

Пэўная колькасць беларускіх вёсак, фальваркаў, ферм і хутароў, больш за ўсё ў Віцебскай вобласці, і якраз на тэрыторыях Расіі і Латвіі, якія раней уваходзілі ў гэтую губерню, мае аснову "табак": вёскі Табачнікі, вёска Табакерка, фальваркі Табакова, ферма Табакова, хутар Табакераўшчына.

На Віцебшчыне да рэвалюцыі на карце можна было знайсці "індыковы" напамін пра амерыканскія рэаліі. Ад польскай вясковай назвы бульбы - пыры, пыркі, якая прыйшла з Іспаніі, паходзяць, верагодна, антрапонімы і тапонімы Пырко і падобныя, Пыркі, Піркі (былая вёска ў Брагінскім раёне).

На сучаснай карце Гродзенскай вобласці мы ўбачылі назву, магчыма, проста інавацыйна-тэхнічную, - Місуры.

…І гэта калі не згадваць невялікае "сузор'е" назваў Амерыка, якія пасля рэвалюцыі перайменоўваліся ў "савецкія", у Жлобінскім раёне - літаральна ў Савецкую (маем "Савецкую Амерыку").

На Беларусі, дзякуючы "Хроніцы ўсяго свету" М. Бельскага ў арыгінальных выданнях і перакладзе на беларускую мову, а таксама хранографам, заснаваным на "Хроніцы", была распаўсюджаная думка, што не Амерыка атрымала сваю назву ад Веспучы, а наадварот. Лічылася, што падарожніка пачалі зваць Амерыкам (Аммерыком) ад вялікага вострава, які ён знайшоў, а назва вострава ператварылася затым у агульнае абазначэнне новай (чацвёртай) часткі свету.

Над "беларуска-індзейскай" тапанімікай трэба яшчэ шмат працаваць, выяўляючы, нармалізуючы і ўтвараючы назвы нанава.

У Беларусі не выдадзены, напрыклад, даведнікі, падобныя да рускіх і ўкраінскіх "слоўнікаў замежных геаграфічных назваў", таму ў друку масава сустракаюцца розныя варыянты напісання адных і тых жа тапонімаў. У нейкім сэнсе дапамагаюць вырашаць пытанні напісання артыкулы і карты ў "Беларускай энцыклапедыі", але "рэформа" 2008 г. некалькі знізіла яе даведачную каштоўнасць.

**Літ.:**

*888 Алешин Т. Договор Тлателолко // Советская Белоруссия. 1989. 23 апр.*

*9032 Беларускі праваслаўны каляндар на 1968 год. Нью-Ёрк, 1967.*

*6412 Блинов Ю. Медведь, кролик и койот // Народная воля. 2002. 15 февр. (На алімпіядзе ў Салт-Лейк-Сіці, ланцуг Уосач, "горы, што дымяцца".)*

*4506 Бурлин С. А. Русская колонизация Северо-Западной Америки в середине XVII-XIX веков: (формы и методы вовлечения коренного населения в хозяйственную систему колонии) // Моладзь Берасцейшчыны. Брэст, 1997. С. 89-95.*

*7560 Бусел М. Не ад Амэрыга: удакладненьне да вашай рубрыкі пра гістарычныя міты // Наша ніва. 2000. 4 - 10 ліп. (Амерыга.)*

*5040 Вастраў вечнага лета і тайна самага грэшнага горада / тэкст падрыхтаваў П. Юдо; здымак з архіва аўтара // Настаўніцкая газета. 1997. 26 сак.*

*6076 Вялянкова І. У гарах выразьней адчуваеш сябе жанчынай / гутарыў Д. Носаў // Наша ніва. 2001. 9 ліп. С. 8.*

*3498 Гаіці // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 4. Мн., 1997. С. 434. (Востраў.)*

*1201 Да вынікаў конкурсу-віктарыны "Ці ведаеце вы Мінесоту" // Народная газета. 1982. 13 лістап.*

*6417 Дым и пепел над Мехико // Рэспубліка. 2002. 25 студз.*

*408 Жучкевич В. А. Общая топонимика. Изд. 2-е, испр. и доп. Мн., 1968.*

*1269 Жучкевич В. А. Общая топонимика. Изд. 3-е, перераб. Мн., 1980.*

*409 Жучкевич В. А. Топонимика: краткий географический очерк. Мн., 1965.*

*1278 Загорская М. "Студэнцкая краіна" Калгары // Чырвоная змена. 1990. 15 верас. С. 6. (21.03.2023 Марына паведаміла нам: "На жаль, пра індзейцаў нічога распавесці не магу. Я была па праграме абмену студэнцкіх газет. На вывучэнні адукацыі і засяроджваліся". "Але з індзейцамі я дакладна не перасякалася". Ціпі, фота якога змешчанае, было ў кампусе. Але "без індзейцаў".)*

*3048 "Знаете ли вы Миннесоту [?]: к итогам конкурса-викторины // Советская Белоруссия. 1992. 8 окт.*

*1341 Иванов В. В. Цветовая символика в географических названиях в свете данных типологии: К названию Белоруссии // Балто-славянские исследования. 1980. М., 1981. С. 163-177.*

*1342 Иванов Вяч. Цветовая символика в географических названиях в свете данных типологии / / Імя тваё Белая Русь / уклад. Г. М. Сагановіч. Мн., 1991. С. 117-136.*

*1355 Изменить название // Советская Белоруссия. 1989. 22 марта.*

*3662 Индейцы-людоеды // Частный детектив. 1992. № 7. С. 8.*

*1360 Імя тваё Белая Русь / уклад. Г. М. Сагановіч. Мн., 1991.*

*6242 Калейдаскоп / паводле матэрыялаў друку падрыхтаваў І. Хоміч // Чырвоная змена. 1990. 14 лістап. С. 8.*

*2944 "Канада" - слова індзейскае // Звязда. 1995. 23 снеж.*

*1481 Крапівін П. Паходжанне назваў "Русь", Белая Русь і "Чырвоная Русь" // Імя тваё Белая Русь / уклад. Г. М. Сагановіч. Мн., 1991. С. 68-87.*

*1480 Крапівін П. Ф. Паходжанне назваў Русь, "Белая Русь" і "Чырвоная Русь" // Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук. 1956. № 3. С. 53-66.*





*8945 Лупакоў У. Таямніцы ў назвах краін // Наша слова. 2012. 2 траўня [мая]. С. 2. ) (аўтар - "настаўнік СШ № 10, г. Берасце", колішні член БІТ. "Гаіці - на мове індзейцаў таіна "высокая гара"". "Гватэмала - на мове ацтэкаў guanthemallon - месца, пакрытае лесам". "Куба - на мове індзейцаў таіна cuba nacan - сярэдзіннае месца". "Панама - на мове індзейцаў куэва "месца, дзе багата рыбы"". "Чылі - магчыма: на мове індзейцаў кечуа "мяжа свету", бо знаходзіцца на вузкай палосцы паміж Андамі і Ціхім акіянам". Таксама: "Венесуэла - магчыма ад іспанскага "маленькая Венецыя", бо тубыльцы будавалі свае дамы на палях".)*

*11115 Лыч Л. М. Краязнаўства ў кантэксце сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця Беларусі. Мн., 2013.*

*1598 Мартыненка В. Канада - глабальна // Чырвоная змена. 1990. 8 снеж. С. 12-13.*

*5545 Місуры // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 10. Мн., 2000. С. 475.*

*6002 Мічыган // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 10. Мн., 2000. С. 491.*

*6057 Моисеенко В., Липень Э. Рашен стронг мен на Мак-Кинли / [интервью в редакции]: Б. Тасман // Белорусская деловая газета. 2001. 5 июля. С. 14.*

*6252 Ніягарскі вадаспад // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 11. Мн., 2000. С. 356.*

*6379 Охота за секретом долголетия // Секретные исследования. 2001. № 12. С. 15.*

*6148 Парагвай // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 12. Мн., 1996. С. 78. ((Рака.)*

*6152 Парана // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 12. Мн., 1996. С. 88-89.*

*1766 Пераможцы будуць запрошаны ў Мінесоту! // Беларусь. 1992. № 7. Ліп. С. 11.*

*2650 Переименование по-американски // Томагавк. 1993. № 5. [с 15]*

*11355 Песков В. Аляска больше, чем вы думаете. М., 1994. (Таксаа выданні ў Маскве ў 1999, 2008, 2011 гг.)*

*11360 Песков В. Аляска больше, чем вы думаете / / Роман-газета. 2003, № 17 (1455) (ГУП Чехов. полигр. комб.; назва ад Казырэўскага на Алясцы.)*

*11357 Песков В. Аляска больше, чем вы думаете. 2-е изд. М., 2006 (Ярославль: Ярославский полиграфкомбинат.) (Аляска сапраўды больш, чым вы думаеце!)*

*2980 Ражкоў-Ружыцкі М. Шкада Прапойска: фельетон // Голас Радзімы. 1971. № 9. Сак. С. 5.*

*380 Резниченко В. Троцкий в Мехико! // Знамя юности. 1991. 19 дек.*

*6133 Рылюк Г. Я. Амерыка // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 1. Мн., 1996. С. 313.*

*8532 Рылюк Г. Я. Истоки географических названий Белоруссии (с основами общей топонимики). Мн., 1997.*

*4494 Рылюк Г. Я., Басик С. Н. В мире географических названий южных материков: пособие для преподавателей и студентов географических специальностей. Мн., 1998.*

*1899 Рэзнічэнка У. Паляванне на "рачнога тыгра": Яго завуць дарада. У яго вялізная галава і вялікая пашча... // Звязда. 1988. 9 крас.*

*4646 Самае-самае // Родная прырода. 1998. № 3. С. 26.*

*1936 Северная Дакота меняет имя // Сельская газета. 1989. 21 марта.*

*774 Слово о словах // Сельская газета. 1989. 30 июля.*

*2003 Так назвали... Антология любознательных / раздел ведет И. Шпадарук // Сельская газета. 1990. 4 февр.*

*6388 Тумар А. Ниагара // Иммиграция & туризм. 2001. 29 нояб. - 13 дек. С. 5.*

*2087 Фісенка В. Востраў пакуты і надзей // Звязда. 1987. 6 сак.*

*2088 Фісенка В. Ямайка, сонечны востраў // У розных землях і краінах / склад. А. А. Кійранен. Мн., 1989. С. 221-231.*

*6307 Фолкнер У. Миссисипи / пер. С. Белова // Фолкнер У. Статьи, речи, интервью, письма: пер. с англ. / сост. и общ. ред. А. Н. Николюкина; [вступ. ст. Ю. В. Палиевский. послесл. и коммент. А. Н. Николюкина; ред. З. В. Федотова]. М., 1985. С. 54-80.*

*2104 Ці ведаеце вы Мінесоту?": Да вынікаў конкурсу-віктарыны / Журы віктарыны // Звязда. 1992. 15 кастр.*

*2105 Ці ведаеце вы, што... // Звязда на меліярацыі Палесся. 1987. 3 студз.*

*3577 Цютчык Н. І. Што аставіў чалавецтву Магелан? // Тезисы докладов межфакультетской студенческой научной конференции, посвященной 475-летию первого кругосветного путешествия Ф. Магеллана. Брест, 1997. (А. М. Краўчук - навуковы кіраўнік.)*

*6450 Что явилось раньше - дыра или звезда? // Аналитическая газета "Секретные исследования". 2002. № 3. С. 2.*

*2145 Чым не дагадзіла назва штата? // Звязда. 1989. 18 сак.*

*4404 Шалястовіч К. Што прымушае яе сэрца біцца мацней // Голас Радзімы. 1992. 20 жн.*

*3254 60 лет назад американский летчик Джимми Энджел, пролетая над тропическими лесами Венесуэлы, с борта своего самолета открыл неизвестный доселе водопад // Знамя юности. 1995. 30 авг.*

*10582 Ярошевич М. И., Вечер Н. Н., Горный А. В. Топинамбур (Helianthus tuberosus l.) - перспективная культура // Теоретические и прикладные аспекты интродукции растений как перспективного направления развития науки и народного хозяйства: материалы международной научной конференции,*





*пасвященной 75-летию со дня образования ЦБС НАН Беларуси. Мн., 2007. Т. 1. С. 323-325.*

*6314 Faulkner W. Mississippi // Holiday. 1954. April.*

*6315 Faulkner W. Mississippi // Faulkner W. Essays, Speeches and Public Letters / ed. by J. B. Meriwether. N. Y., 1965.*

*7556 Calasanctius M. J. The voice of Alaska: memoires d'une missionnaire, fondation de la mission de la Sainte-Croix (Koserefsky), Lachine, PQ, 1947 (Выдадзена ў Квебеку: Sister Mary Joseph Calasanctius, S.S.A., des Soeurs de Sainte-Anne de la province Saint-Joseph. Прыналежнасць "утрапёнага" і прысуджанага да смерці падарожніка і клірыка Івана або Ігнацыя Казырэўскага вызначалі як праваслаўную і / або ўніяцкую; тое, што ён наведаў раён Холі-Кроса на Юкане і нават паставіў там хаціну, - моцнае перабольшванне, але тое, што ён правёў першае праваслаўнае набажэнства ў водах паміж Азіяй і Амерыкай, - больш рэалістычна.)*

**ГРЫНКЕВІЧ Мікалай** (15) - наш перакладчык тэкстаў "Пра школу" на галандскую (нідэрландскую) мову Себасцьян Марэль - па адчуваннях і па практыцы - адзін з самых пазітыўных, карэктных і пунктуальных людзей у Сусвеце, ён хрысціянскі анархіст, вышэй чаго ў маральных адносінах, здаецца, нічога не можа быць. Гэтае спалучэнне дае добры акмеалагічны вынік, выпраўляючы хібы і хрысціянства, і анархізму. Усіх крытыкаў апошняга па-ранейшаму лепш за ўсё накіроўваць да Крапоткіна і ў некаторай ступені да Бакуніна, імёнамі якіх названа шмат вуліц у Беларусі.

У Гомелі адзін з цэнтраў індзеяніcцкай інфармацыі знаходзіўся і дагэтуль яшчэ ў пэўным сэнсе застаўся каля Свята-Нікольскага манастыра, які размяшчаўся паміж вуліцамі Крапоткіна і Дзям'яна Беднага - пакуль дамогся агульнымі намаганнямі з епархіяй перайменавання, каб хрысціянскія адрасы гучалі "прыстойна". У манастыры збіралася Царкоўна-гістарычная камісія, пратаколы якой мы змяшчалі ў нашым "Весніку БІТ"; у сваю чаргу ў манастырскі штотыднёвік "Правило веры" мы беспаспяхова прапаноўвалі матэрыял пра заслужанага клірыка-земляка Мікалая Грынкевіча.

"Практычны" анархізм (г.зн. часам "безадказныя" выхады на вуліцу - якія, як мы ўжо шмат разоў паўтаралі, можна "даравацъ" толькі малым дзецям, - замест больш адказных і ў вышэйшай ступені этычных дзеянняў) і вывучэнне анархізму - не адно і тое ж. Таму Себасцьянус "Бас" Марэль, які вядомы сваёй увагай да розных краін Усходняй Еўропы (жыў і ў Расіі, і ў Польшчы) і як "хрысціянскі анархіст" - успрымаецца зусім нармальна і пазітыўна ўсюды, дзе ён з'яўляецца.

Польскія анархісты (ці, магчыма, адзін з іх) сапсавалі нам пачатак працы з электроннай поштай у 1997 г. - падключэннем без нашай згоды да іх рассылкі: "Бог ім суддзя". Пра гэта - у лісце да нас Баса з Лазаны, куды ён трапіў на некаторы час.

CENTRE INTERNATIONAL DE RECHERCHES SUR L'ANARCHISME
C. I. R. A.
Beaumont 24
CH–1012 Lausanne
tél, fax +4121 652 48 19

Belorussian-American Indian Society
P.O. Box 114
260049 Gomel
Belarus

Lausanne, 15th April 1998

Dear Ales Simakou

We refer to your letter of February 12 and apoplogize for this late reaction. With two people having to run the whole business during their spare time as volunteers it cannot always be otherwise. The writer of this letter happens to spend here a few days helping out and profits of the opportunity at the same time to reply to a letter addressed to himself and identical to part of the letter sent to the CIRA.
We don't know who "zaczec" is. It could be the Polish Anarchist Federation, which has its postal address at the Unywersitet Slaski at Katowice. It publishes a bulletin An Arché, P.O. Box 636, 40 958 Katowice-2. e-mail: sierp@eternal.net.
We ourselves have no e-mail.
We know of no more or less central anarchist address in Warsaw, not even of a group.
Jakub Gawlikowski and Mikhail K. are unknown to us. The CIRA is a library and a facilitating point for research, it doesn't keep track of groups and organisations.
Our only not very regular and frequent general publication is our bibliographic bulletin. It's less suitable to carry information and materials published elsewhere.

We feel not authorised to give you our mailing list but if you have names of certain periodicals to whom you would like to send your publications we may be able to give their addresses. In gerneral we feel that for people interested in Indian issues it is more fruitful to approach anthropological departments of universities etc. Very often staff are very openminded and ready to help or to refer to the right people and addresses. The problem with eve@iisg.nl's e-mail was that at first the sender made some error, so that it looked as if there was a virus problem. A few days later he tried again and, to my knowledge, then was succesful. It was just a long message: my CIS and Bangladesh Newsletters. Actually, I don't remember that the FAB was on my e-mail list, but I'll delete it so as to avoid difficulties for you. If you like to revert to this matter, please donot write to the CIRA but to Bas Moreel, Spuistraat 213, 2987 TL Ridderkerk, The Netherlands. Unfortunately, I can't promise a prompt reply as I'm travelling around most of the time and letters have to wait for my rare returns to The Netherlands.

With kind regards

Bas Moreel

***Letter from Bas Moreel, CIRA, Lausanne, Switzerland 1998-04-15***

У кожнай краіне, у кожнай дзяржаве знойдзецца чалавек, які спачатку ўсталёўваў анархісцкія "каштоўнасці", а потым высунуў сваю кандыдатуру на высокую дзяржаўную пасаду або, альтэрнатыўна, стаў простым мешчанінам. Зразумела, што так быць не павінна.

Тэкст Грынкевіча з брашуры доктара Руселя, якога нярэдка трактуюць як анархіста (асабліва ў Балгарыі) і які вядомы як "прэзідэнт Гаваяў", захаваўся ў арыгінальным папяровым выглядзе і ў Галандыі, якая славіцца сваёй ліберальнай палітыкай у галіне вывучэння левізны. Тыраж лонданскай брашуры мы не ведаем, але і ў Еўропе, і на ўсход і захад ад яе экзэмпляраў брашуры ў каталогах бібліятэк знаходзім нямала.

*"Als arts, dat wil zeggen als iemand tot wie de ondergeschikten van de bisschop zich onder allerlei voorwendsels konden wenden zonder zijn argwaan te wekken, was ik in de gelegenheid om, om zo te zeggen uit de eerste hand, gegevens over de negatieve kanten van zijn karakter te verkrijgen. En aangezien de bisschop steeds verder ging met ongegronde beschuldigingen tegen iedereen die op de een of andere manier met hem in*








**Envelope from UNITED for Intercultural Action. European network against nationalism, racism, fascism and in support of migrants, refugees [migrants, refugees and minorities] Amsterdam, Netherlands.**

*aanraking kwam en zijn ontevredenheid opwekte: dienstpersoneel, ondergeschikten, scholieren enzovoorts, ging er geen dag voorbij zonder dat iemand bij mij verscheen met bittere klachten over "nieuwe regels" en onverdiende vernederingen waaraan de nieuwe bisschop de mensen. Het dienstpersoneel beklaagde zich erover dat zij niet genoeg hadden om van te leven doordat Vladimir hun zonder recht of reden nog maar de helft of twee-derde van hun loon uitbetaalde, en over zinloze chicanes die alleen tot doel hadden van hun werk een straf te maken!.. De studenten klaagden over het bedorven en onvoldoende eten, over de krapheid en de ongemakken van het vochtige souterrain, dat ze opgegeten werden door de luizen, dat ze hele nachten in een strafhok werden opgesloten waar ze door ratten gebeten werden, dat hun van's morgens tot's avonds geen rust gegund werd en ze onderworpen werden aan afmattende godsdienstoefeningen en lessen. De gerechtigdheid van hun klachten werd bevestigd door hun vermoeide, bleke en scrofuleuze gezichten en door hun haveloze vuile kleding.*

*Ik had de klachten van de administratieve medewerkers en van de priesters misschien niet helemaal serieus kunnen nemen omdat "dieven elkaar de ogen niet uitsteken" en ik had kunnen denken dat ze misschien wat overdreven waren, maar ik kon niet onverschillig blijven tegenover de klachten van de weerloze kinderen over wie de nieuwe bisschop zijn aartsherderlijke macht uitstrekte. Ik kreeg onder andere vaak bezoek van een zekere Grinkewietsj die de priesterstudie had afgerond en als voorzanger naar Amerika was gestuurd als straf voor dronkenschap. Hij vertelde schokkende dingen over de situatie op de school en zijn woorden werden volledig bevestigd door de klachten van de ongelukkige kinderen. Ik verzocht hem hetgeen hij mij over de wantoestanden op de school verteld had, op te schrijven. Grinkewich was ready to accede to my request and wrote the notes that follow and which I quote word for word because they are an outstanding description of the situation created by Vladimir.*

***DE SCHOOL***

*De school telt 23 jongens. Zij zijn verdeeld over 3 klassen. De klaslokalen dienen ook als werkruimten. Er zijn geen ruimten voor de vrije uren. Alle klaslokalen (en slaapruimten) bevinden zich in het souterrain. Twee klaslokalen zijn zo slecht verlicht dat je in het midden van het lokaal amper tekst uit een boek kan lezen. Geen enkele ventilatie. Vochtigheid en stank. Het lokaal waarin de tweede klas les krijgt, dient ook als eetzaal.*

*Voor de achtjarigen gelden dezelfde regels en zij volgen hetzelfde regime als de vijftienjarigen. De dagen zijn als volgt ingedeeld: lessen 3 1/2 uur (van 1 1/2 tot 5 n.m); voorbereiding op de lessen 3 uur (8-11 v.m.); zingen 2 uur (11-12 v.m. en 5-6 n.m.); kerkdienst 2 uur (6 1/2 - 7 1/2 v.m.). Op zaterdagen en kerkelijke feestdagen kan er 6 uur kerkdienst per dag zijn / kan de kerkdienst 6 uur duren. De kinderen zijn verplicht lang haar te hebben, en daarin krioelt het van de luizen...*

*De bisschop heeft zich het geld toege?igend van de kinderen die met hem hierheen gekomen zijn. Alle 12 hadden ze geld meegekregen voor de reis, waarvan ieder tenminste 200 dollar had over gehouden. Enkele kinderen die hierheen gekomen waren, waren eerder al naar Alaska gekomen; niemand van hen had geld gekregen, zelfs niet om wat kleding te kopen, ofschoon dat duidelijk meer dan nodig was". [trans. into Dutch by Bas Moreel]*

*(Russel (Soedzilovski), Nikolaj. Deontologie in de eparchie Aleoeten-en-Alaska / vert. uit het Russ. door Bas Moreel // Веснік БІТ. 2015. 5 чэрв. № 31; Doctor Russel over Nikolaj Grinkevitsj / vert. uit het Russ. door Bas Moreel // Веснік БІТ. 2014. 20 мая. № 28; Grinkevitsj, Nikolaj. De school / vert. uit het Russ. door Bas Moreel // Веснік БІТ. 2014. 20 ліп. № 40.)*

***ВОЛЬГА (Гватэмала)** - ляцела ў Гватэмалу з Масквы праз Панаму, з аплатай білетаў кампаніяй, якая яе наняла. Яе ўражанні, якія змешчаны на сайце 15.01.2023 г., маюць эфектны загаловак "Бегаюць голыя дзеці разам з качкамі і парсюкамі" і падсумоўваюць яе вопыт за паўтара гады.

Шмат увагі яна прысвяціла кухні, гандлю, больш за ўсё яе ўразіў *"мясцовы каларыт"*, ёй *"падабаюцца незвычайныя краіны і гарачы клімат. Яна гатова ахвяраваць камфортам дзеля краявідаў"*.

Да працы перакладчыцай з іспанскай і англійскай моў у металургічнай кампаніі ў Гватэмале яна на радзіме была школьнай выкладчыцай, працавала ў пасольстве ў Азіі, у спартыўнай газеце, у "Белзамежбудзе" ў Венесуэле (2012).

*"Жыву ў паселішчы для супрацоўнікаў кампаніі побач з мястэчкам Эль Эстор* [El Estor, у дэпартаменце і на возеры - найбуйнейшым у краіне - Ісабаль - Izabal,





Alcoholics Anonymous World Services
P.O.Box 459
Grand Central Station
New York, NY I0I63
USA

July 26, I995

Dear Alcoholics Anonymous:

I am not an alcoholic, but I am writing on behalf of those in and outside the Society who are addicted. It is extremely difficult to cope with this disaster, first of all because of serious personality problems as a result of alcoholism.

A cross-cultural program on alcohol, sometimes half in joke called the Belarusian Popular Front of Liberation From Alcohol, was formed within BAIS several years ago. This is a social and political ethnocultural research group. However, we greet any non-political sectarian activities and we would be grateful for curriculum materials of AA with a desirable emphasis on the following issues: moral responsibility of "boon companions", alcoholics in the Army and "post-military" alcoholics, associations of wives and children of alcoholics, various family services, alcohol and depression, erraneous diagnostics of alcoholic psychoses in non-drinking anxious patients, Native American Alcoholics Anonymous, AA programs for post-Soviet/"socialist" countries.

We hope to encourage founding an AA group in Gomel.

Thank you.

Sincerely yours,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
PO Box II4
Gomel 246049
Belarus

***Letter to Alcoholics Anonymous World Services 1995-07-26***

AI-Anon Family Group Headquarters, Inc.
I372 Broadway
P.O. Box 862
Midtown Station
New York, NY I00I8-0862
USA

November 22, I995

Dear Friends:

I am a member of the Belarusian Popular Front of Liberation of Alcohol, a defensive network which encourages domestic organizations, from parties to associations of families, to fight alcohol in any kinds, and I would be grateful for any organizational information on how to start the work of an AI-Anon group in Gomel.

Thank you very much.

Sincerely,

***Letter to Al-Anon Family Group Headquarters 1995-11-22***

дзе пераважаюць індзейцы кекчы - Q’eqchi’], *да сталіцы - горада Гватэмала - адсюль каля 160 кіламетраў. У самім паселішчы ў нас ні кафэ, ні рэстаранаў няма, таму я хаджу ў само мястэчка".* За невялікі катэдж ад кампаніі яна не плаціць.

*"У кампаніі ў нас працуюць як рускамоўныя, так і гватэмальцы. Па заканадаўстве не менш за 60 адсоткаў калектыву павінны складаць мясцовыя жыхары".*

*"Насельніцтва Гватэмалы - сумесь народаў майя, Еўропы і Карыбскага басейна. Чым вышэй у горы, тым большая там прысутнасць культуры майя.*

*Нашчадкі майя гавораць на 21 мове. Самая шматлікая моўная супольнасць - кічэ. Іспанская для мясцовых жыхароў другая мова, яна з'яўляецца афіцыйнай.*

*Шмат гватэмальцаў знаходзяцца за рысай беднасці".*

*"Бедныя гватэмальцы ў большасці займаюцца нелегальным гандлем і такім чынам выжываюць.*

*Неяк ехала ў таксі. Убачыла, што на вуліцы*

National Council on Alcoholism
and Drug Dependence
I2 West 2Ist Street, 7th floor
New York, NY I00I0
USA

November 23, I995

Dear Colleagues:

We are pleased to use this opportunity to express our gratitude for your work.

Your address is from the A.A. Office in New York; that organization publishes a pamphlet for Native American Alcoholics Anonymous. We hope you have a specific program too.

We are a "cross-cultural" group which disseminate the knowledge how to fight, survive and create in a Native American way.

One of our main concerns is alcohol and we hope to strengthen our propaganda with the help of any education, prevention and treatment curriculum material prepared by American organizations.

We could offer our modest experience and, for example, some results and lessons of the perestroika era anti-alcohol campaign in exchange.

Thank you for your time.

Sincerely,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary
Belarusian - American Indian Society
P.O. Box II4
Gomel 246049
Belarus

***Letter to National Council on Alcoholism and Drug Dependence 1995-11-23***

*тварам уніз ляжыць чалавек. Кажу кіроўцу, што трэба выклікаць хуткую дапамогу. А ён адказвае, што за гэта возьмуць грошы, таму не трэба.*

*Сацыяльная медыцына тут нават не на сярэднім узроўні, а на вельмі нізкім. Вельмі распаўсюджаны наркатычныя сродкі, алкаголь, і ёсць у мяне падазрэнні, што мясцовае насельніцтва ўвогуле горш пераносіць спіртныя напоі. Усё ж індзейцам майя гэта не было ўласціва.*

*"Русас" тут маюць рэпутацыю людзей, якія п'юць шмат - нас успрымаюць як нейкіх бессмяротных істот. Думаю, што індзейцам майя для таго, каб ахмялець, трэба значна менш алкаголю".*

*"Для гватэмальцаў рускамоўныя ўсе "русас" - беларусаў тут мала, больш расіян і ўкраінцаў".*

*"Па паслугі яна звяртаецца да беларусак, расіянак і ўкраінак. У мясцовых цырульнях узровень абслугоўвання даволі нізкі, а цэны высокія".*

*"У сталіцы неяк стрыгла валасы ў даволі добрым салоне, аддала каля 90 даляраў. Гэта я проста зняла даўжыню, без прычоскі, стрыжка заняла 15 хвілін. У нашым горадзе салонаў для жанчын няма, а вось для мужчын чамусьці барбершопаў хапае".*




***Envelope from National Council on Alcoholism and Drug Dependence (New York, NY) received 1995-12-27***




Вольга заўважыла звычку хадзіць у нацыянальным адзенні толькі ў жанчын.

*"У светлы час дня я адчуваю сябе больш-менш бяспечна. У пэўныя зоны жанчыне лепш не заходзіць - могуць абрабаваць. Але вось у суседняй краіне - Гандурасе - значна горш з гэтым. Нават з маімі сябрамі там былі непрыемнасці, стралялі, напрыклад, па аўтобусе, у кагосьці дзяўчыну хацелі згвалтаваць. У Венесуэле таксама такое".*

Мы пісалі прэзідэнту Гватэмалы Альвара Арсу:

*"Sr. Presidente Alvaro Arzu Irigoyen*
*Presidente de Guatemala*
*Palacio Nacional*
*Ciudad de Guatemala*
*Guatemala*
*March 30, 1997*
*Your Excellency:*

*The murder of Santiago Coc Pop, Maurilla Coc Max and eleven other former refugees on October 5, 1995 remains a trouble even after your successful negotiations and agreements with the left armed opposition.*

*We would be glad to know that culprits are arrested and victims are compensated.*

*Our group has a strong pro-Latin American sentiment and we would be happy to receive messages confirming your good deal with Indigenous people on your common road to well-being.*

*Sincerely…"*

*"Бегаюць голыя дзеці з качкамі і парсюкамі, шмат расліннасці. У параўнанні са сталіцай Гватэмалы вельмі кантрасна, канешне.*

*Разумею, што ўсюды ёсць бедныя і багатыя, чыстае і бруднае, але там увогуле наўпрост гэта ўсё дзеліцца па зонах. Яны так і называюцца - зоны, іх каля 24. Калі гэта 10-ая зона, то ўсё даволі прыгожа - бліскучыя будынкі, ліхтары гараць, людзі ходзяць з дарагімі сабачкамі. А ў суседняй зоне, напрыклад, можа быць гара смецця і людзі жывуць ледзь не на ёй".*

Вольга ў адной са сваіх рэплік: *"Тут сумую толькі па ладзе жыцця, да якога я прывыкла ў Беларусі. Не хапае блізкіх сяброў, любімых краявідаў. Але з гэтым я бы сутыкнулася ў любой краіне. Тут, мабыць, мне канкрэтна не падабаецца нейкая агульная бюракратычная няўладкаванасць".*

У матэрыяле ёсць рэмарка, што тлумачыць асаблівасці атрымання візы для тых, хто жадае паехаць у Гватэмалу.

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou,***
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenas, indios de America y Belarus; Grinkevich On the School Project (Church school in San Francisco, 1888-1892).***

# Пазнавальная гадзіна "Запаведны край: знай, любі, аберагай"

22 жніўня ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 1" адбылося чарговае пасяджэнне аматарскага аб'яднання "Сябрына". Прысутныя прынялі ўдзел у пазнавальнай гадзіне "Запаведны край: знай, любі, аберагай".





Прырода - гэта вялікі цуд нашай планеты, і яго трэба берагчы. Бібліятэкар паведаміла аб тым, што такое запаведнік, заказнік, помнік прыроды, для чаго яны патрэбны, чаму іх трэба аберагаць. Прысутныя даведаліся аб асабліваахоўных прыродных тэрыторыях нашай Радзімы, аб жывёльным і раслінным свеце гэтых тэрыторый. З дапамогай электроннай прэзентацыі "Запаведнікі Беларусі" дзеці пазнаёміліся з асноўнымі правіламі паводзін у заказніках. А для таго, каб даведацца, якія жывёлы засяляюць запаведнікі, давялося разгадваць загадкі. У заканчэнні мерапрыемства была праведзена віктарына "Запаведныя мясціны Беларусі", у якой дзеці з задавальненнем прынялі ўдзел.

***Наш кар.***



№ 36 (88) 6 ВЕРАСНЯ 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

# Ліда літаратурная святкуе таксама

Ліда яскрава адлюстравана фарбамі на палотнах мастакоў і ў мастацкім слове майстроў прыгожага пісьменства! Сёння ў Гарадку, што на Віцебскай зямлі, прайшоў юбілейны, 30-ы Дзень беларускага пісьменства. А Ліда ж адзначае таксама юбілей - 700 год!!! У сувязі з гэтымі падзеямі была арганізавана арт-праграма "Балкон" з удзелам лідскіх паэтаў.



Трэба зазначыць, што ўжо не ў такі далёкі час калі з балкона Дома паэта Валянціна Таўлая таксама гучала паэзія і музыка. І вось сёння, у трэці дзень свята горада лідскія творцы вырашылі зноў парадаваць прыхільнікаў паэзіі. На імправізаваную сцэну-балкон выйшлі Канстанцін Якубчык з дачкой Жэняй, якія падзяліліся з гасцямі і жыхарамі горада вершамі на дзіцячую тэматыку, пра горад Ліда і гумарыстычнага характару.



Алесь Хітрун пазнаёміў слухачоў-гледачоў з гісторыямі літаратурнай Лідчыны і святкавання Дня беларускага пісьменства, зачытаў вершы Валянціна Таўлая і свае асабістыя - пра родны край і родную мову, гумарыстычныя.



Тарэса Смольская парадавала аматараў паэзіі вершамі, прысвечанымі гораду і таксама знайшлося месца для вершаваных твораў пра малую радзіму.



Прыўзняла настрой у прысутных Алена Несцерава, вершы, у выкананні якой закранулі іх да глыбіні душы.

Так, апошні дзень свята ў Лідзе прыхільнікі мастацкага слова правялі ў песнях і вершах. І на гэтым яны не развітваюцца, бо прагучала прапанова зноў сабрацца пад паэтычным балконам каб набрацца пазітыўнага настрою для далейшых шэрых будняў. А як гэта зрабіць - адказ ёсць у лідскіх майстроў паэтычнага слова. Сачыце за навінамі. А пакуль некалькі фотаздымкаў з арт-праграмы.

***Алесь Хітрун.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 4.09.2023 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3,25 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*